● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

14 лістапада 1996 г.
чацвер, № 267 (23070)



# ЗВЯЗДА

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:
## «БЕЛАРУСКІ НАРОД УСПРЫНЯЎ ПАДПІСАННЕ ДАГАВОРА АБ УТВАРЭННІ СУПОЛЬНІЦТВА З РАСІЯЙ ЯК ПАЧАТАК ПЕРААДОЛЕННЯ ШТУЧНАГА РАСКОЛУ ДВУХ БРАТНІХ НАРОДАЎ»

***Фрагменты з выступлення Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у Дзяржаўнай Думе Расійскай Федэрацыі 13 лістапада 1996 г.***

### Прэзідэнт Беларусі аб:

**...СТВАРЭННІ БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКАГА СУПОЛЬНІЦТВА ДЗЯРЖАЎ**

Мы, палітыкі, не маем права падмануць святыя пачуцці нашых людзей. Гэта якраз тая сітуацыя, пра якую гавораць: «Цяпер ці ніколі!» Ці мы паставім на ногі наша Супольніцтва, ці дыскрэдытуем саму ідэю беларуска-расійскай інтэграцыі.

З часу падзеі, асвячонай на Саборнай плошчы Маскоўскага Крамля, зроблена нямала. Вынікі гэтай работы простыя людзі ўжо адчулі на сабе. Мы адмянілі мытны і пагранічны кантроль паміж нашымі краінамі. Прыняты рашэнні аб роўных правах беларусаў і расіян на працаўладкаванне, аплату працы, адукацыю, медыцынскую дапамогу, набыццё маёмасці ва ўласнасць. Выраўноўваюцца ўмовы пенсіённага забеспячэння, прадастаўлення дапамог і льгот ветэранам вайны і працы, інвалідам і малазабяспечаным сем'ям.

Але людзі чакаюць ад Супольніцтва намнога больш. Асабліва нясцерпныя выпадкі, калі прымаемыя ў рамках Супольніцтва рашэнні не даводзяцца да канца.

Так, дагэтуль не рэалізавана рашэнне аб бясплатным праездзе Героям Савецкага Саюза, кавалерам ордэнаў Славы трох ступеняў, інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны адпаведна ў Беларусь ці ў Расію. Не вырашана таксама пытанне аб бясплатным лячэнні ў шпіталях ветэранаў вайны і іх санаторна-курортным абслугоўванні.

Святая ж справа, мы ў даўгу перад гэтымі заслужанымі людзьмі! Яны абаранялі адзіную Айчыну — Савецкі Саюз. І не іх віна, што яго не стала.

Трэба прызнаць, што інтэграцыя яшчэ не набыла незваротны характар. Наша Супольніцтва яшчэ не стала самаразвіццёвым арганізмам, яно патрабуе штодзённага клопату і валявых намаганняў лідэраў нашых краін.

**...АБ УСПРЫМАННІ БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКАЙ ІНТЭГРАЦЫІ Ў СВЕЦЕ**

Будзем шчырымі: беларуска-расійскае збліжэнне ўспрымаецца ў свеце неадназначна. Сям-там яго зразумелі як спробу адраджэння імперыі і пачалі прымаць прывентыўныя меры.

Скажу прама, мы на сабе адчуваем сур'ёзны ціск. Не рызыкуючы чапаць Расію, якая па сутнасці застаецца вялікай дзяржавай, хочуць пакараць Беларусь за такую «самастойнасць і вольнасць», каб іншым непанадна было.

Гэтаму падыгрывае сёй-той у Расіі.

Давайце не будзем саромецца і апраўдвацца за жаданне нашых народаў жыць разам. Тым больш, што беларуска-расійскае збліжэнне знаходзіцца ў рэчышчы агульнасусветных інтэграцыйных працэсаў.

Тут не павінна быць двайнога стандарта. Паглядзіце — інтэграцыя ў Еўропе і Паўночнай Амерыцы становіцца ўсё больш магутным інструментам прарыву ў XXI стагоддзе. І ніхто не аспрэчвае, што гэта з'ява прагрэсіўная. Дакладна такіх жа пазітыўных адносінаў заслугоўвае і беларуска-расійская інтэграцыя. Не можа ж быць так, што інтэграцыя на Захадзе — гэта абавязкова добра, а інтэграцыя на Усходзе — гэта абавязкова дрэнна.

Час бы ўжо супакоіцца і нашым замежным партнёрам, якім у любым збліжэнні на ўсходзе Еўропы бачыцца пагроза адраджэння імперыі.

Іншы раз мне здаецца, што мы з вамі намнога хутчэй пераадолелі стэрэатыпы «халоднай вайны». Калі мне гавораць, што, змяніўшы адносіны да Расіі, Беларусь магла б набраць ачкі на Захадзе, я заўсёды адказваю, што на здрадзе сваіх братоў шчасця не пабудуеш.

Мы ў прынцыпе супраць таго, каб іграць на супярэчнасцях паміж Расіяй і іншымі дзяржавамі, супраць дылемы: «ці разам з Расіяй супраць Захаду, ці разам з Захадам супраць Расіі». Такі падыход — гэта спадчына «халоднай вайны», ад якой трэба хутчэй пазбаўляцца.

Беларуская знешняя палітыка — мнагавектарная. Мы хочам сябраваць з дзяржавамі Захаду, але не за кошт пагаршэння адносінаў з Расіяй.

**...ПРА ПРАДУЗЯТАСЦІ, ШТО ПЕРАШКАДЖАЮЦЬ НАРМАЛЬНАМУ РАЗВІЦЦЮ СУПОЛЬНІЦТВА**

У нашых народаў агульнае мінулае і, упэўнены, агульная будучыня. Але для таго, каб яна была добрая, трэба пераадолець прадузятасці, што перашкаджаюць нармальнаму развіццю Супольніцтва.

Прадузятасць першая ў тым, што Беларусь быццам бы з'яўляецца нахлебніцай і збіраецца жыць за кошт Расіі.

Гэты тэзіс узмоцнена тыражуецца некаторымі вашымі сродкамі масавай інфармацыі. Ды і асобныя расійскія дзяржаўныя дзеячы вельмі празрыста намякаюць, быццам бы саюз з Беларуссю — на шкоду Расіі.

Хацелася б верыць, што гэта робіцца не са злым намерам, а па няведанню. Тэзіс гэты настолькі ж шкодны, наколькі лжывы.

Для таго, каб вызначыць, хто чаго варты, дастаткова ўспомніць часы Савецкага Саюза. Беларусь ніколі не дацíравалася з Цэнтра, наадварот, штогод аддавала ў Цэнтр, не лічачы прамых падаткаў у саюзны бюджэт, больш за мільярд долараў.

Мы былі і застаёмся краінай з высокатэхналагічнай прамысловасцю і высокапрадуктыўнай сельскай гаспадаркай.



Дасведчанаму чалавеку, каб разабрацца ў становішчы спраў, дастаткова зайсці ў нашы прадуктовыя магазіны і ўбачыць, што там гандлююць якаснымі айчыннымі прадуктамі, а не «ножкамі Буша».

У нас высокакваліфікаваны, працавіты, дысцыплінаваны народ. І няма для беларуса большай знявагі, чым сцвярджэнне, што ён збіраецца сядзець у некага на шыі.

Шмат спекуляцый было з нагоды «нулявога варыянта». Сёй-той у Расіі скрупулёзна лічыць даўгі за энерганосьбіты і «прастадушна» не заўважае, што Расія не плаціць нам за транзіт, за размяшчэнне ваенных аб'ектаў і за многае іншае.

Зразумела, грошы трэба лічыць. Але трэба лічыць усё. І тады акажацца, што беларуска-расійскае стратэгічнае партнёрства выгаднае і нам, і вам не толькі палітычна, але і эканамічна. Таму трэба яго ўмацоўваць, а не размываць.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ДЭПУТАТЫ РЫЗЫКУЮЦЬ АКАЗАЦЦА ЗНОЎ ВІНАВАТЫМІ

**У сераду Вярхоўны Савет яшчэ больш пашырыў планы сваёй дзейнасці, уключыўшы ў парадак дня другой сесіі дадаткова два пытанні. Першае датычыцца праекта пастановы, якая павінна зацвердзіць расходы на друкаванне бюлетэняў для галасавання па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета, а другое накіравана на вырашэнне складанай сітуацыі з прадстаўленнем у парламент праекта бюджэту на наступны год.**

Паколькі Міністэрства фінансаў ухілілася ад выканання заканадаўства і не пералічыла сродкі, неабходныя для правядзення дадатковых паўторных выбараў, то вырашыць гэтую праблему ўзяўся Сакратарыят Вярхоўнага Савета. Трэба заўважыць, што парламент не толькі заявіў аб друкаванні бюлетэняў, але і аказаў пэўную дапамогу кандыдатам у дэпутаты, кожнаму з якіх пасля напісання неабходнай заявы будзе надрукавана па 1000 агітацыйных улётак.

Старшыня камісіі па бюджэту, банках і фінансах Уладзімір Башарымаў выказаў вялікую заклапочанасць тым, што Прэзідэнт да гэтага часу не ўнёс на разгляд Вярхоўнага Савета праект бюджэту на 1997 год, хаця, згодна з Законам «Аб бюджэтнай сістэме», павінен быў зрабіць гэта яшчэ да 1 лістапада. У. Башарымаў прапанаваў уключыць у парадак дня пытанне аб адпаведным звароце да кіраўніка дзяржавы, з чым дэпутаты, улічваючы сур'ёзнасць сітуацыі, не маглі не пагадзіцца. Больш таго, падчас спрэчак у кулуарах некаторыя парламентарыі выказвалі абурэнне паводзінамі выканаўчай улады, якая ў чарговы раз зрывае графік разгляду галоўнага фінансавага плана краіны. Яны адзначылі, што пры такім становішчы Вярхоўны Савет у чарговы раз акажацца абвінавачаным у адсутнасці бюджэту, і нагадалі, што гісторыя зноў паўтараецца. У 1994 годзе праект бюджэту не быў своечасова прадстаўлены і зацверджаны па прычыне таго, што выканаўчая ўлада не давярала парламенту XII склікання, спасылаючыся на яго нелегітымнасць. У 1995 годзе сітуцыя паўтарылася з-за таго, што Вярхоўны Савет не быў канчаткова сфарміраваны. Сёння ж Прэзідэнт і Кабінет Міністраў, мабыць, ужо жывуць па новай Канстытуцыі, за якую народ яшчэ не прагаласаваў, і лічаць, што гэтаму Вярхоўнаму Савету засталося жыць нядоўга, таму і прапаноўваць праект бюджэту яму не мае сэнсу...

Калі па гэтых пытаннях у дэпутацкага корпуса асаблівых разыходжанняў не было, то адносна двух астатніх прапаноў знайсці адзіную думку не ўдалося. У прыватнасці, не хапіла літаральна двух галасоў для таго, каб уключыць у парадак дня пытанне аб звароце Вярхоўнага Савета да беларускага народа. Як мы ўжо пісалі, такі ж самы вынік быў і днём раней. Не знайшла належнай падтрымкі і прапанова даць тлумачэнне некаторым артыкулам Закона «Аб усенародным галасаванні (рэферэндуме)». На думку яе ініцыятараў, гэта дазволіла б пазбегнуць рознага трактавання палажэнняў закона і вынікаючых адсюль парушэнняў пры правядзенні плебісцыту. Аднак па прычыне адсутнасці вялікай колькасці дэпутатаў на пленарным пасяджэнні аўтары дзвюх апошніх прапаноў пайшлі па іншаму шляху. Яны пачалі збіраць подпісы калег у сваю падтрымку. Такім чынам, зварот да беларускага народа будзе належаць не ўсяму парламенту, а толькі тым дэпутатам, якія яго падпішуць.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## Галоўны прыз «Звязды» — карова Папялушка — трапіла ў добрыя рукі сям'і Мірончыкаў

**І гэта сапраўды так. Не сурочце, паважаныя чытачы, паглядзеўшы на гэтых добрых людзей. Пяцігадовая шчабятуха Алачка і ўмудроная жыццём Яніна Іосіфаўна першымі сустракалі на сваім падворку галоўны прыз «Звязды» — карову Папялушку (Золушку). Менавіта такая мянушка была дадзена ёй у калгасе «Новы свет», дзе набыла яе наша газета разам з другім арганізатарам латарэі сярод падпісчыкаў «Звязды» — Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь.**



— Так і будзем называць яе, — запэўніла новая гаспадыня Папялушкі, — гэта для нашай сям'і сапраўдная ўдача.

Галіна, настаўніца пачатковых класаў адной з капыльскіх школ, разам з дачкой Алачкай і была ініцыятарам удзелу ў розыгрышы латарэі «Звязды». Па яе словах, разлічвала на карову і інтуітыўна адчувала, што выйграе толькі яе.

(Заканчэнне на 7-й стар.)

# «БЕЛАРУСКІ НАРОД УСПРЫНЯЎ ПАДПІСАННЕ ДАГАВОРА АБ УТВАРЭННІ СУПОЛЬНІЦТВА З РАСІЯЙ ЯК ПАЧАТАК ПЕРААДОЛЕННЯ ШТУЧНАГА РАСКОЛУ ДВУХ БРАТНІХ НАРОДАЎ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Прадузятасць другая — быццам бы ў Беларусі ўстанаўліваецца дыктатура, парушаюцца правы чалавека, няма свабоды слова. Калі меркаваць па некаторых вашых сродках інфармацыі, ствараецца ўражанне, што ў нас не сёння, дык заўтра выбухне палітычная катастрофа.

Паглядзіце ж аб'ектыўна і непрадузята на тое, што робіцца на ўсёй так званай постсавецкай прасторы.

Сярод саюзнікаў Расіі Беларусь з'яўляецца краінай з найбольш стабільнай сацыяльна-палітычнай абстаноўкай.

Іншы раз так і хочацца сказаць, крыкнуць: расплюшчыце ж вы вочы і паглядзіце, што ў Беларусі няма ні міжрэлігійных, ні міжнацыянальных канфліктаў.

У нас рускамоўнае насельніцтва адчувае сябе гэтак жа, як пры Савецкім Саюзе. У нас не бягуць у Расію, наадварот, рускія едуць да нас.

Самае галоўнае права чалавека — права на жыццё. У нас, дзякуй Богу, няма канфліктаў, у якіх гінуць людзі.

Так, ёсць праблемы, ёсць процістаянне ўладаў. Але вырашаем жа мы іх без выкарыстання сілы.

Старая Канстытуцыя рэспублікі складзена так, што калі ў яе не ўнесці змяненняў, дык у грамадстве не будзе міру і згоды. Розныя, як гэта прынята гаварыць, галіны ўлады будуць вечна высвятляць адносіны замест таго, каб разам вырашаць праблемы, што стаяць перад краінай.

Хто павінен іх рассудзіць? Толькі сам народ! Таму я і вынес папраўкі да Асноўнага закона на рэферэндум.

Змяненні ў Канстытуцыю мы ўносім для таго, каб збалансаваць правы і абавязкі розных галін улады.

Каб вы маглі самі ацаніць сітуацыю, працытую пункт 1 артыкула 100 дзеючай Канстытуцыі.

Прэзідэнт «прымае меры па абароне суверэнітэту, нацыянальнай бяспекі і тэрытарыяльнай цэласнасці, забеспячэнню палітычнай і эканамічнай стабільнасці...»

Такая фармулёўка аддае на меркаванне Прэзідэнта вырашэнне практычна любога пытання.

Заўважу, не я пісаў такі пункт у Канстытуцыю, а Вярхоўны Савет мінулага склікання для таго чалавека, які павінен быў стаць Прэзідэнтам. Але лёс распарадзіўся інакш, Прэзідэнтам стаў А. Лукашэнка.

У новым жа варыянце Асноўнага закона мы ад гэтага адыходзім. Раздзяляюцца функцыі кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады. Урад, які сёння знаходзіцца пры Прэзідэнце і не мае нават права заканадаўчай ініцыятывы, набывае ўсе паўнамоцтвы па кіраўніцтву выканаўчай уладай.

Прэзідэнт жа пакідае за сабой функцыі толькі кіраўніка дзяржавы.

Скажыце, дзе тут дыктатура і што ва ўсім гэтым дрэннага?!

Па новаму варыянту Асноўнага закона ў мяне правоў будзе не больш, чым у Прэзідэнта Расіі па Канстытуцыі, якую расіяне цалкам прынялі на рэферэндуме.

Я рабіў і раблю ўсё, каб беларускі народ сам у спакойнай абстаноўцы прыняў рашэнне. Дзеля гэтага згадзіўся на перанос тэрміну рэферэндуму з 7 на 24 лістапада, пайшоў на змяненні, якія абмяжоўваюць правы Прэзідэнта.

Але мае апаненты больш за ўсё баяцца свайго народа.

Уявіце, Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шарэцкі падаў нядаўна сам на сябе ў Канстытуцыйны суд і папрасіў адмяніць ім жа, Шарэцкім, падпісаную на дзень раней пастанову аб рэферэндуме. І назначаныя Вярхоўным Саветам суддзі вырашылі, што вынікі рэферэндуму не абавязковыя для выканання. Як бы ні прагаласаваў народ, яны будуць усё рабіць па-свойму. А мы гаворым пра прававы Чарнобыль у Беларусі! Дык дзе ж ён?..

Вы дзе-небудзь бачылі, каб кучка людзей пазбаўляла дзесяцімільённы народ права галасаваннем вызначаць свой лёс?!

Як Прэзідэнт, выбраны народам, не магу дапусціць такога адкрытага здзеку з тых, хто даверыў мне лёс краіны.

Таму адназначна заяўляю: як прагаласуе народ на рэферэндуме, так і будзе. Мы знойдзем сродкі і спосабы, каб воля народа была абавязковай для ўсіх.

А іначай і быць не можа, калі сур'ёзна падыходзіць да палажэння аб тым, што народ з'яўляецца адзінай крыніцай дзяржаўнай улады.

Прадузятасць трэцяя — быццам бы Беларусь адстала ад Расіі ў правядзенні рэформаў і вяртаецца да каманднa-адміністрацыйнай сістэмы.

І ў якасці асноўнага аргумента называюць працэнт прыватызацыі.

Гавару шчыра: для мяне гэты працэнт ніколі і не быў галоўным паказчыкам эфектыўнасці рэформаў. Высокага працэнта ў гэтай справе можна дасягнуць па-рознаму, і вы гэта ведаеце лепш за нас.

Важна, каб пасля пераходу ў прыватныя рукі прадпрыемства працавала лепш і не сядзела на шыі ў дзяржавы.

Так, мы не раздалі свае прадпрыемствы за бесцань. Многія з іх мы абавязкова будзем прыватызаваць, у тым ліку і з удзелам замежнага капіталу. Запрашаем і расіян прыняць удзел у гэтым працэсе.

Давайце не будзем траціць час на размовы аб тым, хто далей пайшоў у правядзенні рэформаў. Давайце разам будзем выбірацца з крызісу, у якім мы апынуліся не па сваёй віне.

### ...АБ ПРЫКЛАДАХ ЭФЕКТЫЎНАГА БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Разам з РАТ «Газпром» мы ствараем эфектыўную сістэму забеспячэння спажыўцоў Беларусі прыродным газам. Нарошчваецца супрацоўніцтва ў нафтахіміі. Пракладка газаправода «Ямал—Еўропа» праз тэрыторыю краіны — гэта таксама важная частка фундамента нашага Супольніцтва.

Нядаўна выканкам Супольніцтва прыняў канцэпцыю развіцця дызельнага аўтамабілебудавання. Яе рэалізацыя дазволіць стварыць канкурэнтаздольную аўтамабільную тэхніку, і намнога таннейшую чым замежныя аналагі. Гэта тым больш важна, што адно рабочае месца ў аўтамабілебудаванні створыць 8 рабочых месцаў у сумежных галінах. Такім чынам будзе забяспечана занятасць каля мільёна чалавек.

Я мяркую, настала неабходнасць выпрацоўкі адзінай аграрнай палітыкі Супольніцтва.

Трэба аднавіць на расійска-беларускім рынку традыцыйныя патокі мясных і малочных прадуктаў, бульбы, збожжа, цукру, алею. Мы ж можам спаўна разлічыцца сельскагаспадарчай прадукцыяй за энерганосьбіты, што атрымліваем з Расіі.

Беларускія вытворцы гатовы паставіць вам канкурэнтаздольную прадукцыю, якую вы жадаеце купіць.

Даўно час ажыццявіць сумесныя праграмы па развіццю сельскагаспадарчага машынабудавання, яго спецыялізацыі. Трэба арганізоўваць лізінгавыя кампаніі па пастаўках сельскагаспадарчай тэхнікі і запасных частак.

Вы ж ведаеце, якое месца ў расійскай сельскай гаспадарцы займаюць трактары «Беларусь» і іншая сельскагаспадарчая тэхніка, што вырабляецца ў нас. Яна ў вас цяпер выпрацоўвае свой рэсурс, і надыходзіць час яе абнаўлення.

Гэтую праблему мы можам вырашыць разам. Не трэба толькі паддавацца пражэктам аб стварэнні ў Расіі альтэрнатыўных вытворчасцей гэтых відаў тэхнікі. Мінскі трактарны, напрыклад, будаваўся не толькі для Беларусі, а для ўсяго Саюза і спакойна задаволіць патрэбнасці і Беларусі, і Расіі, Азіі і Амерыкі.

Трэба наладжваць супрацоўніцтва на ўсіх узроўнях. Важна, каб устанавіліся ўстойлівыя сувязі паміж суб'ектамі гаспадарання, дзелавое, узаемавыгаднае партнёрства прадпрымальнікаў. Трэба развіваць вопыт супрацоўніцтва сталічных абласцей нашых краін.

Перспектыўнай з'яўляецца ідэя стварэння двухбаковай асацыяцыі свабодных эканамічных зон у Калінінградскай і Брэсцкай абласцях, якія ўжо працуюць.

Дарэчы, Беларусь здольна адыграць ролю своеасаблівага моста паміж Калінінградам і Расіяй. На словах усе гэта разумеюць, але рэальнага руху наперад пакуль няма.

### ...ПРА НЕКАТОРЫЯ ПРЫЧЫНЫ, ПА ЯКІХ СУПОЛЬНІЦТВА НЕ ПРАЦУЕ НА ПОЎНУЮ МАГУТНАСЦЬ

Думаю, вы пагодзіцеся, што адна з прычын, па якой Супольніцтва не можа запрацаваць на поўную магутнасць, у тым, што заканадаўства не паспявае за палітычнымі рашэннямі. Відаць, і вам, і беларускім парламентарыям трэба дзейнічаць больш дынамічна.

Калі ж працаваць не спяшаючыся, па схеме стварэння мадэльных законаў з наступнай іх дапрацоўкай нацыянальнымі парламентамі, дык адставанне прававой базы стане хранічным. Больш правільна было б разам распрацоўваць законы і адначасова прымаць іх парламентамі абедзвюх краін. Хопіць ужо мадэліраваць заканадаўства.

Асаблівае значэнне мае стварэнне уніфікаванай прававой сістэмы барацьбы са злачыннасцю. Гэта мы раздзяліліся на розныя дзяржавы. А для злачынцаў уся тэрыторыя былога Савецкага Саюза застаецца агульнай крымінальнай прасторай. Трэба хутчэй пераадолець адасобленасць праваахоўных органаў і стварыць надзейны прававы фундамент для іх сумесных дзеянняў. Беларусь у гэтых адносінах гатова ісці так далёка, наколькі гэта неабходна.

### ...ПРА ЗАБЕСПЯЧЭННЕ БЯСПЕКІ НАШЫХ ДЗЯРЖАЎ І НАРОДАЎ

Давайце глядзець на рэчы цвяроза: насуперак нашым спадзяванням, за развалам Варшаўскага Дагавора і Савецкага Саюза не адбылося дэмантажу ваеннага блока, які ім процістаяў.

Больш таго, на парадку дня пашырэнне НАТО. А яно фактычна пачалося. У самыя бліжэйшыя гады рэальны выхад блока на заходнія межы Беларусі. Усё гэта суправаджаецца заявамі лідэраў некаторых краін — кандыдатаў у НАТО аб гатоўнасці размясціць на сваёй тэрыторыі ядзерную зброю.

Не ведаю, як вы, але мы ў Беларусі не бачым разумных прычын, па якіх трэба пашыраць Паўночнаатлантычны блок. Але з нашымі аргументамі, падобна, ніхто не збіраецца лічыцца.

У гэтых умовах нам з вамі трэба думаць, што рабіць, і не трэба баяцца, што нас няправільна зразумеюць.

Тут зноў жа праяўляецца двайны стандарт. Чаму ваеннае супрацоўніцтва на Захадзе, пашырэнне НАТО — гэта добра, а беларуска-расійскае ваеннае супрацоўніцтва — гэта дрэнна? Варта было мне выказацца пра неабходнасць рэагавання на экспансію НАТО, як я адразу трапіў у «чорны спіс» у заходніх дзяржаў.

Я заклікаю не да аднаўлення ваенна-палітычнага процістаяння. Ды і нерэальна гэта ў цяперашніх умовах. Але мы павінны разам шукаць адэкватны варыянт адказу.

Як бы не здарылася так, што вывад ядзернай зброі з тэрыторыі Беларусі супадзе па часе з размяшчэннем ядзерных ракет і боепрыпасаў на тэрыторыі новых членаў НАТО.

У гэтай сувязі я хацеў бы звярнуць вашу ўвагу на беларускую ініцыятыву аб стварэнні ў цэнтры Еўропы прасторы, свабоднай ад ядзернай зброі. Яе рэалізацыя істотна ўзмацніла б бяспеку ўсіх дзяржаў нашага рэгіёна.

Гэта не новая ідэя, а добра забытая старая, што нарадзілая яшчэ ў часы існавання адзінай краіны. Нам трэба больш актыўна працаваць над стварэннем надзейных палітычных, прававых і ваенных гарантый нашай бяспекі.

### ...ПРА СТРАТЭГІЧНАЕ ПАРТНЁРСТВА БЕЛАРУСІ І РАСІІ

Многае мы ўжо робім. Але ў шэрагу выпадкаў супрацоўніцтва не рухаецца наперад таму, што некаторыя расійскія палітыкі і чыноўнікі яўна недаацэньваюць значэння Беларусі як стратэгічнага партнёра. Тыя стэрэатыпы, прадузятасці ў адносінах да нашай рэспублікі, пра якія я гаварыў, даюць аб сабе знаць.

Між тым, сёння Беларусь у поўным аб'ёме забяспечвае бяспеку Расіі на заходнім напрамку.

Дарэчы, утрыманне сістэмы проціпаветранай абароны, пагранічнага і мытнага кантролю на гэтым напрамку абыходзіцца нашай дзяржаве каля 300 млн. долараў у год. Напрыклад, крыху больш за 100 млн. долараў рэспубліка завінавацілася за бягучыя пастаўкі газу.

Больш актыўна мы павінны працаваць па забеспячэнню экалагічнай бяспекі і аб'яднаць намаганні па пераадоленню вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

### ...АБ ПЕРААДОЛЕННІ НАЙГЛЫБЕЙШАГА ДУХОЎНАГА КРЫЗІСУ, ПЕРАЖЫВАЕМАГА НАШЫМІ НАРОДАМІ

Прычыны яго разнастайныя і неадназначныя. Назаву толькі адну з іх. Гэта — страта агульнага ідэалу, якога прытрымліваліся пакаленні савецкіх людзей, скажам, пачынаючы з 1917 года.

Калі рушыўся Савецкі Саюз, многім здавалася, што дастаткова будзе асмяяць камуністычную ідэю і адразу ж наступіць духоўнае і нацыянальнае адраджэнне. Аднак гэтага не здарылася, ды і не магло здарыцца таму, што духоўная будучыня народа не можа грунтавацца на распінанні яго духоўнага мінулага.

У вакуум, што ўтварыўся, хлынулі экстрэмісцкія ідэі, а часта і непрыкрытая крымінальная мараль.

Адхіленне дзяржавы ад выхавання грамадзяніна непазбежна вядзе да маральнай дэградацыі моладзі. Сярэдняя і вышэйшая школа як Беларусі, так і Расіі мітусяцца ў пошуку апоры для выхаваўчай работы.

Усе разумеюць, такое становішча далей не можа быць цярпімым. Сёння няма недахвату ў прапановах аб фарміраванні новай дзяржаўнай ідэалогіі. Але ім уласцівы адзін недахоп — усе яны носяць абстрактны і штучны характар.

Я глыбока перакананы, што дзяржава сёння не мае права навязваць нашым шматпакутным народам якую-небудзь надуманую ідэалогію.

У нашых народаў ёсць дадзеныя Богам хрысціянскія каштоўнасці, якія дапамагаюць і беларусам, і рускім захаваць сваю душу. Яны, гэтыя хрысціянскія каштоўнасці, дапамогуць нашым народам пераадолець і цяперашнюю смуту.

Хачу, каб вы мяне правільна зразумелі: размова не ідзе пра адраджэнне дзяржаўнай рэлігіі. І ў Беларусі, і асабліва ў Расіі шмат канфесій. Да ўсіх іх дзяржава павінна ставіцца аднолькава. Дыскрымінацыя ў сферы свабоды сумлення недапушчальная.

Але мы павінны ўлічваць і тое, што пераважная большасць і беларусаў, і рускіх — хрысціяне. І хрысціянскія запаведзі — гэта сапраўды агульначалавечыя каштоўнасці, якія нікому не могуць нашкодзіць.

Вялізную ролю ў духоўным аздараўленні народаў адыгрываюць сродкі масавай інфармацыі. Беларусь цалкам знаходзіцца ў расійскай інфармацыйнай прасторы. Перадачы асноўных тэле- і радыёстанцый Расіі свабодна транслююцца на ўсю тэрыторыю нашай краіны. Таксама лёгка і свабодна распаўсюджваюцца ў нас расійскія друкаваныя выданні. І мы ніколі не думалі пасля хлусні на асобных ТБ-каналах закрыць іх, як гэта зрабілі ў некаторых іншых краінах.

Можаце параўнаць гэта з сітуацыяй у іншых былых саюзных рэспубліках, дзе расійскае тэлебачанне проста выключылі.

І што ж у выніку атрымалася? Нешта дзіўнае, што не паддаецца разумнаму тлумачэнню.

Большасць расійскіх сродкаў масавай інфармацыі менавіта Беларусь і яе кіраўніцтва зрабілі галоўным аб'ектам не проста крытыкі, а наўмыснай дыскрэдытацыі і хлусні. Расійскія тэлеканалы сталі сёння асноўным рупарам антыпрэзідэнцкай апазіцыі.

Не ведаю, ці ёсць яшчэ ў свеце такія прыклады, калі сродкі масавай інфармацыі дзяржавы вядуць інфармацыйную вайну супраць свайго бліжэйшага саюзніка і стратэгічнага партнёра.

Думаю, у інтарэсах і Расіі, і нашых двухбаковых адносінаў, каб сітуацыя ў Беларусі асвятлялася аб'ектыўна. Мы за свабоду прэсы, але гэтая свабода не павінна выкарыстоўвацца для распаўсюджвання дэзінфармацыі і паклёпаў.

Незразумелая ў гэтай сувязі пазіцыя Грамадскага расійскага тэлебачання, якое беспардонна назначыла ўласным карэспандэнтам у Беларусі злейшага ворага беларуска-расійскай інтэграцыі, страшнейшага апазіцыянера да Прэзідэнта. А тэлекампанія НТБ не прыдумала нічога лепшага, чым назначыць у Мінск уласным карэспандэнтам грамадзяніна не Беларусі, не Расіі, а Ізраіля.

### ...ПРА НЕАБХОДНАСЦЬ НАДАННЯ ДЫНАМІЗМУ ІНТЭГРАЦЫІ ДЗВЮХ КРАІН

У беларуска-расійскай інтэграцыі няма альтэрнатывы. Гэты выбар зрабілі нашы народы. І мы, палітыкі, абавязаны дакладна разумець, што Беларусь і Расія павінны ісці адной дарогай і сёння, і заўтра, і заўсёды!

У імя святой справы яднання народаў трэба дзейнічаць энергічна і напорыста, дзень за днём умацоўваючы Супольніцтва, ствараючы ўмовы для дастойнага жыцця нашых людзей.

Трэба надаць дынамізм інтэграцыйным працэсам. Інакш — проста зняславімся і загубім саму ідэю. Як Прэзідэнт буду рабіць усё, да чаго схіляецца беларускі народ — да курсу на беларуска-расійскую інтэграцыю.

Прапаную ўжо ў студзені правесці сумеснае пасяджэнне двух парламентаў, магчыма, з удзелам кіраўнікоў урадаў і прэзідэнтаў з тым, каб вызначыць лёс інтэграцыі, а калі трэба, дык і аб'яднання дзвюх краін.

**Інтэрфакс.**

## ЛУКАШЭНКА ГАТОВЫ АБМЯРКОЎВАЦЬ ПЫТАННІ АБ'ЯДНАННЯ РФ І БЕЛАРУСІ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка пацвердзіў свой намер правесці ў снежні ў Мінску пасяджэнне беларуска-расійскага міжпарламенцкага сходу, а ў студзені 1997 года сумеснае пасяджэнне парламентаў дзвюх краін. У інтэрв'ю журналістам у сераду ў Маскве беларускі кіраўнік заявіў, што гатовы абмяркоўваць на ўказаных форумах пытанні аб'яднання РФ і Беларусі «аж да абвяшчэння рэферэндуму па гэтаму пытанню ў абедзвюх краінах».

Пры гэтым А. Лукашэнка асобна адзначыў, што не мае дакладнай пазіцыі адносна формулы аб'яднання — канфедэратыўнай ці якой-небудзь іншай.

Прэзідэнт таксама заявіў, што ў выпадку, калі абедзве дзяржавы пойдуць на якую-небудзь з формаў аб'яднання, дык цяпер ён не гатовы абмяркоўваць тэму магчымага свайго лідэрства ў гэтым дзяржаўным утварэнні.

**Інтэрфакс.**

## ЗАЯВА ВІКТАРА ГАНЧАРА — ПРАВАВОЕ САМАВОЛЬСТВА

Каменціруючы апошнія публічныя заявы старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў Віктара Ганчара, прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь звяртае ўвагу на іх недапушчальны характар. Больш таго, кіраўнік камісіі бярэ на сябе неўласцівыя функцыі, выступаючы ў якасці асобы, якая прадстаўляе калектыўную думку Цэнтрвыбаркома. Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў — калегіяльны орган. Таму дзеянні і заявы службовых асоб Цэнтрвыбаркома павінны адпавядаць рашэнням гэтай камісіі.

Заявы В. Ганчара былі прадыктаваны чыста палітычнымі, папулісцкімі матывамі і наогул не заснаваны на рашэнні Цэнтральнай камісіі. Акрамя таго, меркаванні старшыні Цэнтрвыбаркома не адпавядаюць заканадаўству Рэспублікі Беларусь. У прыватнасці, яго заява аб тым, што калі да 24 лістапада на выбарчым участку будзе зарэгістравана больш чым два працэнты выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у датэрміновым галасаванні, то ён накіруе дакументы ў пракуратуру. Гэта выказванне з'яўляецца грубым парушэннем Закона аб народным галасаванні (рэферэндуме), які дазваляе праводзіць галасаванне за 15 дзён да даты рэферэндуму без якіх-небудзь абмежаванняў.

Заява В. Ганчара аб тым, што ён не падпіша падагульняючы пратакол па рэферэндуму,— абуральнае прававое самавольства. У адпаведнасці з законам і службовымі абавязкамі старшыня Цэнтрвыбаркома абавязаны падпісаць пратакол вынікаў рэферэндуму. Калі ж у ходзе правядзення рэферэндуму будуць устаноўлены парушэнні закона, якія могуць зрабіць уплыў на вынікі галасавання, то толькі па прадстаўленню Генеральнага пракурора Цэнтрвыбарком мае права правесці паўторнае галасаванне.

Выдаючы свой асабісты палітычны пункт гледжання на ключавыя моманты правядзення рэферэндуму за думку Цэнтрвыбаркома, В. Ганчар уводзіць у зман грамадскую думку. Пры гэтым ставіцца зусім пэўная і непрыстойная мэта — запалохаць прадстаўнікоў выканаўчай улады, членаў выбарчых камісій, бясконца пагражаючы ім нейкімі карнымі «санкцыямі». Гэта разлічана на людзей або наіўных, або слабанервовых. Такі стыль «публічнай палітыкі» з'яўляецца нецярпімым і несумяшчальны з дзейнасцю старшыні Цэнтрвыбаркома, таму што атручвае атмасферу вакол рэферэндуму і перашкаджае свабоднаму волевыяўленню грамадзян. Прэс-служба Прэзідэнта лічыць, што празмерна ваяўнічыя заявы В. Ганчара выходзяць за межы яго кампетэнцыі і кола абавязкаў, якія заключаюцца ў строгім і дакладным выкананні заканадаўства, за што старшыня Цэнтрвыбаркома павінен несці адказнасць аж да адхілення ад займаемай пасады.

Такія дзеянні старшыні Цэнтрвыбаркома, хутчэй за ўсё, звязаны з тым, што ён да гэтага часу з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета, знаходзіцца ў апазіцыйнай да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дэпутацкай фракцыі і, натуральна, адстойвае свае палітычныя погляды. У гэтай сувязі наўрад ці магчыма забяспечыць справядлівыя і непрадузятыя адносіны Цэнтрвыбаркома пры правядзенні рэферэндуму і паўторных выбараў у парламент.

Для таго, каб забяспечыць аб'ектыўнасць у рабоце выбарчых камісій, Закон аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета прадугледжвае, што ў састаў гэтых камісій не могуць уваходзіць кандыдаты ў дэпутаты і іх давераныя асобы. Такое ж правіла трэба было б распаўсюдзіць і на дэпутатаў. Таму В. Ганчару ўжо даўно трэба было вызначыцца, у якой якасці ён будзе ўдзельнічаць у правядзенні важнейшых дзяржаўных мерапрыемстваў. У адваротным выпадку непрадузятасць яго рашэнняў ставіцца пад сумненне.

**Прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

**Віктар ВЛАДЫКА:**

*РАЗМОВА НА АКТУАЛЬНУЮ ТЭМУ*

# «ПОСПЕХ ПРЫХОДЗІЦЬ ДА ТАГО, ХТО АПЕРАТЫЎНА І МЭТАНАКІРАВАНА ПЕРААСЭНСОЎВАЕ НАБЫТЫЯ ФОРМЫ І МЕТАДЫ РАБОТЫ»

***На пытанні рэдакцыі газеты «Звязда» адказвае старшыня праўлення Белкаапсаюза***

**— Амаль год назад на расшыраным пасяджэнні праўлення Белкаапсаюза ішла прынцыповая размова аб становішчы ў спажывецкай кааперацыі, яе далейшым лёсе. Так, Віктар Станіслававіч?**

— Сапраўды, год назад становішча эканомікі спажыўкааперацыі было вельмі цяжкае. Скарачаліся аб'ёмы таваразвароту, нарыхтовак і вытворчасці тавараў народнага спажывання. Навязаныя нам правілы «эканамічнай гульні», у прыватнасці патрабаванні перадаплаты за пастаўляемыя прамысловасцю тавары, параліч плацяжоў, высокія крэдытныя стаўкі і неабгрунтаваныя памеры пені падвялі эканоміку спажыўкааперацыі да крызіснай мяжы. Напрыклад, за 9 месяцаў мінулага года страты сістэмы складалі 86 мільярдаў рублёў. Асабліва складаным было становішча ў асноўнай нашай галіне — гандлі: яе страты наблізіліся да 227 мільярдаў, і іх мы не змаглі перакрыць за кошт рэнтабельнай дзейнасці іншых прадпрыемстваў. Са 118 раённых арганізацый 87, ці 73 працэнты іх, спрацавалі, як кажуць, з «мінусам».

У гэтых умовах праўленне Белкаапсаюза вымушана было прыняць шэраг неадкладных мераў па нармалізацыі становішча ў сваёй сістэме.

**— Якіх канкрэтна?**

— Пачалі мы перш за ўсё з выпрацоўкі новых падыходаў да ацэнкі дзейнасці кіруючых кадраў. Былі знойдзены крытэрыі, якія дазваляюць ажыццявіць комплексную ацэнку работы раённых і абласных кааператыўных арганізацый, іх месца ў рэспубліцы, а таксама дынаміку руху наперад. Гэта методыка, на нашу думку, адпавядала і адпавядае духу часу. Яна дазволіла нам крытычна ацаніць работу кожнага кіраўніка і вызваліцца ад тых, хто быў няздольны паправіць становішча спраў, а тым больш працаваць нармальна, з перспектывай.

Далей. Акрамя перагляду кадравай палітыкі мы імкнуліся найбольш поўна выкарыстаць магчымасці, закладзеныя ў шматгаліновым характары дзейнасці спажыўкааперацыі, г. зн. у самой яе сутнасці і прыродзе. Былі задзейнічаны нявыкарыстаныя рэзервы кааператыўнай прамысловасці, грамадскага харчавання, нарыхтовак, асваення нетрадыцыйных відаў дзейнасці. У пацвярджэнне сказанага дастаткова назваць толькі некалькі лічбаў. За апошнія гады ў нас атрымалі развіццё 43 новыя віды вытворчасцей і паслуг, з іх 18 — прынцыпова новыя. Гэта перапрацоўка воўны, ткацтва, аўтатэхабслугоўванне насельніцтва, апрацоўка дачных участкаў і шкла, адкрыццё гасцініц, цырульняў і майстэрань па рамонту абутку, індпашыў адзення і інш.

І ўсё ж варта сказаць, што сваіх сіл і сродкаў у нас было мала. Нам патрэбна была больш дзейсная дапамога дзяржавы. І тут вельмі своечасовым з'явілася прыняцце ў пачатку года распараджэння Прэзідэнта Рэспублікі «Аб мерах па ўдасканаленню дзейнасці спажывецкай кааперацыі», якім былі вырашаны пытанні ўласнасці і юрыдычна вызначана аснова ўзаемаадносінаў спажывецкай кааперацыі з органамі дзяржаўнага кіравання.

Цяпер узаемаадносіны Белкаапсаюза з Кабінетам Міністраў, а раённых і абласных нашых арганізацый з мясцовымі органамі ўлады будуюцца на аснове пагадненняў, якія заключаюцца кожны год. Гэта, зазначу, вельмі важныя і патрэбныя дакументы: у іх вызначаны абавязкі і меры адказнасці бакоў па абслугоўванню насельніцтва.

І сёння, праз год, можна з упэўненасцю сказаць, што ўсе вышэйназваныя меры і мерапрыемствы далі станоўчы вынік.

**— А ўвогуле, якія сёлетнія здабыткі кааператараў?**

— Нам удалося пераадолець спад таваразвароту і за 9 месяцаў выйсці на ўзровень мінулага года (у супастаўных цэнах). Зараз мы маем магчымасць да канца года забяспечыць прырост не толькі па гэтым галоўным паказчыку, але і па нарыхтоўках і вытворчасці тавараў народнага спажывання. Істотна выпраўлена фінансавае становішча. Усе галіны нашай сістэмы, аблспажыўсаюзы і 103 раённыя арганізацыі (87 працэнтаў) спрацавалі рэнтабельна.

Вядома, пэўная стабілізацыя эканомікі дазволіла скараціць пратэрмінаваную запазычанасць пастаўшчыкам за тавары, ліквідаваць даўгі па заработнай плаце і своечасова выконваць свае абавязацельствы перад дзяржбюджэтам.

**— Усё гэта, зразумела, прыемна. Але хацелася б ведаць, з якімі цяжкасцямі і праблемамі перш-наперш давялося сутыкнуцца ў пераломны перыяд. Што, на ваш погляд, найбольш і зараз перашкаджае нармальнай дзейнасці даручанай вам галіны?**

— Што перашкаджае? Прасцей сказаць і пералічыць, што дапамагае. Асноўнай праблемай, з якой мы сутыкаемся пастаянна ў ходзе вырашэння пытанняў арганізацыі гандлёвага абслугоўвання насельніцтва, з'яўляецца невысокая пакупная здольнасць вяскоўцаў. Думаю, што прычына агульнавядомая. А нам ад таго не лягчэй. Наадварот, пакупная здольнасць абумоўлівае неабходнасць асабліва ўзважана праводзіць асартыментную палітыку ў гандлі на вёсцы. Па сутнасці сельскія крамы гандлююць толькі таварамі першай неабходнасці і сацыяльна значнымі, цэны на якія кантралюе дзяржава. Вось чаму вясковы гандаль для нас стратны, а сетку грамадскага харчавання тут давялося скараціць.

Другая вельмі вострая праблема звязана з амаль поўнай адсутнасцю ўласных абаротных сродкаў. Адсюль відавочна, што працаваць толькі за кошт крэдытаў, г. зн. у доўг, далёка не проста. Усё гэта тоіць негатыўныя вынікі, інакш кажучы, банкруцтва. Сёння асноўнай крыніцай утварэння абаротных сродкаў з'яўляецца прыбытак. А ў яго фарміраванні мы звязаны па руках і нагах. Больш таго, Белкаапсаюзу рэгламентуюць цэнаўтварэнне, асартымент тавараў.

Гэта толькі агульныя, галоўныя, як кажуць, перашкоды на шляху спажыўкааперацыі. Ёсць нямала і «сваіх» перашкод, скажам так, мясцовага значэння, ад якіх мы імкнёмся пазбаўляцца.

**— Апошнім часам у спажыўкааперацыю прыйшло шмат новых спецыялістаў. Скажыце, Віктар Станіслававіч, якая вучоба наладжана сярод іх, якія яе формы і метады. Ці ёсць ад таго які-небудзь эфект?**

— Думаю, нікога не трэба пераконваць у тым, што без пастаяннага абнаўлення ведаў цяжка кіраваць шматгаліновай кааператыўнай гаспадаркай. Поспех прыходзіць да таго, хто аператыўна і мэтанакіравана пераглядае ўжо асвоеныя формы і метады работы, настойліва шукае новыя падыходы і шляхі ў сваёй справе. Сёння нельга апірацца толькі на практычны вопыт і тыя веды, якія дае базавая вышэйшая ці сярэднеспецыяльная адукацыя. У 1996 годзе ў навучальных установах Белкаапсаюза падрыхтаваны і працаўладкаваны ў нашай сістэме 194 спецыялісты з вышэйшай, 703 — з сярэдняй спецыяльнай і 822 — з прафесіянальна-тэхнічнай адукацыяй.

А ў адпаведнасці з праграмай кадравай палітыкі спажывецкай кааперацыі на 1996—2000 гг. павышэнне кваліфікацыі будуецца на прынцыпах дыферэнцыраванага падыходу. Яно носіць няспынны характар і праводзіцца на працягу ўсёй працоўнай дзейнасці работніка. Акрамя таго, кіраўнікі і вядучыя спецыялісты свае веды абнаўляюць на кароткатэрміновых семінарах, якія праводзяцца на базе лепшых прадпрыемстваў і арганізацый.

У апошні час такія рэспубліканскія мерапрыемствы былі арганізаваны ў Іванаўскім, Столінскім, Шклоўскім, Пастаўскім раённых таварыствах. Абласныя спажыўсаюзы таксама займаюцца кароткатэрміновым навучаннем, перш за ўсё на перадавых прадпрыемствах. Тут заняткі звычайна праводзяць кіруючыя работнікі апарату аблспажыўсаюзаў, а таксама кіраўнікі кааператыўных арганізацый.

Напрыклад, Брэсцкі аблспажыўсаюз сёлета абучыць такім чынам каля 900 кіруючых работнікаў і спецыялістаў. Нямала, праўда? Для кіраўнікоў семінараў добрай падмогай у гэтай справе стаў нядаўна выдадзены Белкаапсаюзам вучэбны дапаможнік «Актуальныя праблемы развіцця спажывецкай кааперацыі ва ўмовах рынку».

Нельга не сказаць і аб тым, што мы заключылі і выконваем пагадненне з нямецкай Акадэміяй менеджменту Ніжняй Саксоніі для падрыхтоўкі групы сваіх кіруючых работнікаў. Навучанне там прайшлі ў гэтым годзе 11 чалавек, сярод іх першы намеснік старшыні Магілёўскага аблспажыўсаюза У. Куляшоў, старшыні Мазырскага і Шклоўскага райпо В. Кашпей і С. Пераход, дырэктар Чашніцкай міжрайбазы В. Дорахава. Перападрыхтоўка работнікаў, якія не маюць спецыяльнай адукацыі, ажыццяўляецца таксама на спецыяльным факультэце Гомельскага кааператыўнага інстытута і ў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

**— Без шырокіх і моцных кантактаў з партнёрамі існаваць беларуская кааперацыя наўрад ці зможа.**

— Згодзен. І мы актыўна супрацоўнічаем з кааператыўнымі арганізацыямі многіх краін. Перш за ўсё трэба адзначыць, што Белкаапсаюз з'яўляецца членам Міжнароднага кааператыўнага альянсу (МКА), які аб'ядноўвае больш як 230 кааператыўных арганізацый са 100 краін свету.

**— Што дае такое салідінае членства?**

— Сістэматычна атрымліваем карысную інфармацыю аб міжнародным кааператыўным руху, удзельнічаем у мерапрыемствах МКА. Так, у гэтым годзе наша дэлегацыя брала ўдзел у рабоце яго секцыі пад эгідай ААН па пытаннях абароны навакольнага асяроддзя, якая праходзіла ў Швецыі. Нядаўна ўдзельнічалі ў Еўрапейскай рэгіянальнай асамблеі МКА ў Будапешце.

Паспяхова развіваецца таксама супрацоўніцтва ў рамках Міжкаапсавета — арганізацыі, якая аб'ядноўвае Саюзы спажывецкай кааперацыі краін СНД і Балтыі. Падпісаны двухбаковыя пагадненні аб супрацоўніцтве паміж Белкаапсаюзам і кааператарамі Расіі, Малдовы і Літвы.

Мы ажыццяўляем знешнегандлёвыя аперацыі з кааператыўнымі, іншымі арганізацыямі і фірмамі больш як 40 дзяржаў. Маем сумесныя прадпрыемствы з фірмамі Венгрыі, Польшчы, Швейцарыі. Дэлегацыя Белкаапсаюза сёлета прымала ўдзел у рабоце Гановерскага кірмашу.

**— А давайце, Віктар Станіслававіч, крыху заглянем у заўтрашні дзень. Які ён будзе для беларускай спажыўкааперацыі? Яна застанецца ранейшай ці канкурэнтны рынак надасць ёй новыя грані і рысы?**

— Што ж, давайце зазірнём. Але не будзем забываць і пра дзень сённяшні. Чаму? Сістэма спажывецкай кааперацыі з'яўляецца састаўной часткай эканомікі рэспублікі і залежыць, натуральна, ад яе стану. Я, напрыклад, аптыміст і веру, што ў рэспубліцы становішча стабілізуецца і наш эканамічны патэнцыял запрацуе на поўную моц.

А яшчэ кааперацыя з'яўляецца прадуктам рынку, адной з яго структур. Яна зарадзілася ў мінулым стагоддзі. І за ўвесь перыяд свайго існавання відазмянялася ў адпаведнасці з тымі зменамі, якія зведваў рынак. Але яе сутнасць заставалася ранейшай — работа на пайшчыка, на абслугоўванне насельніцтва. І было б наіўна лічыць, што формы і метады яе работы і ў далейшым будуць ранейшымі. Ні ў якім разе!

І таму ўжо сёння мы цалкам улічваем наяўнасць і актыўнае развіццё канкурэнтнага асяроддзя. Каб устаяць у гэтых умовах, ад нас, кааператараў, патрабуецца як ніколі раней асабліва старанна вывучаць патрэбы і попыт насельніцтва і на гэтай аснове павышаць якасць абслугоўвання пакупнікоў.

З гэтай мэтай праўленне Белкаапсаюза прыняло рашэнне стварыць сетку ўзорных міні- і супермаркетаў, якія не ўступаюць па асартыменту і тэхналогіі еўрапейскім стандартам. Першыя такія прадпрыемствы паявіліся ў Драгічынскім, Пінскім, Пастаўскім, Браслаўскім, Салігорскім, Любанскім, Барысаўскім і іншых раёнах. Асобна хачу адзначыць Пастаўскае райпо, дзе дасягнуты высокі ўзровень гаспадарання ва ўсіх галінах.

Вось такая работа абнадзейвае і дазваляе з аптымізмам глядзець не толькі ў заўтрашні дзень, а і ў больш далёкую перспектыву.

**Гутарку правёў**
**Іван БРАЛКА,**
**рэдактар аддзела «Звязды».**

*ЗВЫЧАЙНЫЯ СЮЖЭТЫ*

# Удзячная Марыя

Некалькі разоў у год Марыя паўтарае гэты рытуал. Яна ідзе праз лес і поле да невысокага, парослага дрэвамі і ўтравелага курганка з крыжам, дзе некалі стаяла сядзіба багатага гаспадара, дзе і дагэтуль падпіраюць неба піраміды стогадовых ліп. Пастаіць, аддыхаецца пасля нязграбнага ўскараскання наверх, спачатку адвяжа стары, выцвілы, потым абвяжа новым фартушком ногі драўлянай фігуры Хрыста. Памоліцца, прысядзе адпачыць. Дадому не спяшаецца. Тут — люба. Хоць бераг Медзазола — суцэльная прыгажосць, свята для сваёй душы Марыя знаходзіць толькі ў гэтым куточку.

Неяк Марыя Пятроўна распавяла пра «святое пісьмо», якое насіла ўсю вайну, схаваўшы ў адзежы. Нібыта яно выратавала яе. Пісьмо тое — малітвы, перапісаныя з Бібліі. Многія людзі верылі тады ў цудадзейнасць такіх лістоў, ды не ўсім шчасціла яе зведаць. У тым жудасным ліхалецці Марыі прыходзілася як ніколі цяжка. Неаднойчы яе жыццё было на самым краі. І калі гітлераўцы стралялі па ёй, а яна ўцякала па замерзлым возеры. І калі вёска гарэла. І з цяжкага палону з Германіі вярнулася... Назаўсёды паверыла Марыя і ні пры якіх паваротах лёсу не адварочвалася ад Бога. Можа таму ходзіць яна да таямнічага ляснога кургана.

Цяпер 73-гадовая Марыя Хількo жыве адна — ля самага-самага возера. Аўдавела. Дзеці, як павялося, рассыпаліся па свеце. Ёсць у яе яшчэ і гаспадарка. Любіць напаліць лазню. Летам лодкаю дабіраецца на другі бераг, дзе ягадна і шмат грыбоў. Доўгімі зімовымі вечарамі сумуе па ўнуках і чакае ад іх лістоў.

У часы, калі рэлігія цярпела несправядлівыя здзекі, шыла Марыя фартушкі, вышывала на іх крыжыкі і, схаваўшы ад вачэй хамаў, насіла на курган-капліцу. Цяпер, калі і ў цэнтры вёскі з'явіўся ахоўны крыж, яна і яго ўпрыгожвае сваёю няхітраю працай.

Марыі заўсёды ёсць за што дзякаваць. І яна гэта робіць.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**
*Вёска Бірулі, Докшыцкі раён.*

*ПАНОПТЫКУМ*

# ГРЭХ ГРАХОМ НЕ ПАПРАВІШ

ІДУ Ў НЯДЗЕЛЮ ПАЎЗ ШКОЛУ. На прыступках стаяць дзеці, у дзве шарэнгі. Перад імі — настаўніца, штосьці гаворыць упоўным маўчанні слухачоў. Так усё дысцыплінавана, правільна.

Адразу мне прыгадалася паўзабытая карціна. Рота стаіць у калідоры казармы па стойцы «вольна», старшына ходзіць перад строем, праводзіць развод на заняткі. «Іваноў, Пятроў, Сідараў ідуць прыбіраць тэрыторыю. Старшы — сяржант Казлоў...»

Куды ні плюнь — усюды блюзніцца армія, шчыльныя рады, старшына. Армія — у арміі, армія — на «гражданцы», армія — у мазгах... Такое ўражанне, што ў некаторых нават думкі маршыруюць. Калі гэтыя думкі ёсць. Увогуле, для такога «модус вівэндзі» (вобраз жыцця) іх патрэбна не так і многа.

Хочацца выйсці са строю...

■

Я дакладна зараз ведаю: час — гэта катэгорыя матэрыяльная. Яго можна змяніць, павярнуць назад ці ўперад, налева ці направа, уверх ці ўніз.

Напрыклад, 19 кастрычніка глядзеў тэлевізар і мне было не зусім ясна, у якім часе знаходжуся. Як быццам 96-ы год, а здавалася — 76-ы. Ілюзія была настолькі моцная, вось-вось, здаецца, знаёмы голас загучыць, непаслухмяны язык заварочаецца ў нетрах устаўных сківіц: «Дарагія таварышы...».

■

Вось аб чым я думаю. Сход — народны, туды выбраны, скажам так, лепшыя прадстаўнікі народа. Дапусцім, так. Але тады ўзнікаюць адразу два пытанні.

Першае: калі гэта сапраўды лепшыя прадстаўнікі і выбраны яны народам, то чаму іх трэба бараніць некалькімі заслонамі міліцыі? Неяк тут не адчуваецца логікі. Атрымліваецца — народ бараніць ад народа?

Другое: тыя, хто быў на мітынгу па-за межамі Палаца спорту, — яны хто? Дрэнны народ? Яны бандыты, забойцы, гвалтаўнікі? Усе разам ці кожны другі, трэці, дзесяты? Выходзіць, што народ у Палацы спорту — добры, а ля опернага тэатра — дрэнны. Два розныя народы...

Ці можа такое быць? Могуць быць розныя меркаванні, а народ усё ж такі адзін. Таксама ж і розная ступень развіцця, сумлення, годнасці і г. д.

■

«І ты, Брут?» — класічны выраз Цэзара, ён даўно стаў крылатым. Дзіўна, адарваны ад кантэксту сапраўднай гістарычнай падзеі, ён набыў не той сэнс. Складваецца ўражанне, што беднага Цэзара зарэзалі нягоднікі-сенатары, сярод якіх быў і паплечнік Брут. Значыць лепшы сябар здрадзіў, калі перавесці на сучасную мову.

На справе было так. Здаецца, у 45 годзе да нашай эры Цэзар устанавіў у Рымскай імперыі дыктатуру, зноў жа па-сённяшняму, знішчыў дэмакратычныя інстытуты. Нездаволеныя сенатары падчас выступлення Цэзара ў сенаце забілі яго. Паплечнікі Цэзара ў сваю чаргу знішчылі 300 сенатараў. Але грамадзянскай вайны не пазбеглі, яна доўжылася 12 гадоў. Пасля гэтага, што цікава, імперыя жыла ў міры два стагоддзі — абсалютны сусветны рэкорд, ніколі і нікім не паўтораны.

Зноў пацвярджаецца: грэх грахом не паправіш. Зло нараджае толькі зло: забілі Цэзара, былі забіты самі і развязалі грамадзянскую вайну.

З гэтага вынікае: дэмакратыя, безумоўна, далёка не самая дасканалая форма кіравання грамадствам, але пры гэтым гіне мінімальная колькасць людзей. Кожны можа выказацца, можа стварыць сваю партыю, тым самым выпусціўшы пару. Няхай вярзе што хоча, абы не хапаўся за пісталет...

■

Парадокс: верагодна, сярод усіх прэзідэнтаў, прэм'ер-міністраў і г. д. прэзідэнт Злучаных Штатаў — самы бяспраўны.

Мяркуйце самі: проста так яго не выберуць, патрэбна дапамога пэўных фінансавых колаў — ім трэба адплаціць пасля выбрання. Далей, кожны свой крок прэзідэнт ЗША павінен разлічваць у святле наступных выбараў. Дапусцім, забароніць насіць міні-спадніцы ці рыжым — з'яўляцца ў грамадскіх месцах. Колькі галасоў недалічыцца потым? Жах...

Кожны свой законапраект прэзідэнт павінен правесці праз ніжнюю і верхнюю палаты — сенат і кангрэс. А там каго толькі няма. І ў кожнай групоўкі, кожнага лобі — свой інтарэс. Скажам, з сенатам удалося дагаварыцца, а кангрэс упёрся рогам. І што ты з імі зробіш? У нас гэта робіцца проста, а там — дэмакратыя. Словам, не жыццё — катарга. Адно суцяшае: застанешся ў гісторыі.

Увогуле, як там можна жыць, у гэтай Амерыцы? Напрыклад, хлопнеш кабету па прыемным месцы — калі ласка, ужо ў суд запрашаюць па артыкулу «сексуальнае дамаганне». А таму што — правы асобы. Праўда, можна пазваніць прэзідэнту і выказаць усё, што пра яго думаеш. Але зноў жа, ці прыемна гэта прэзідэнту?

І чаму гэта ўсе рвуцца ў Амерыку? Мёдам там намазана, ці што? Прама я разгублены...

■

Тут мне трапілася на вочы «Гісторыя СССР. 9 клас», стары падручнік, па ім яшчэ вучацца, бо новых няма.

Раскрыў наўздагад, чытаю. Пра рабочы рух у канцы XIX стагоддзя. Карпатліва падлічана колькасць забастовак, дзе яны былі і калі. Прыкладаюцца схемы ў колеры. Робіцца выснова: рабочы рух развіваўся, мацнеў, і гэта вельмі добра. Бо пастулова ён «дамацнеў» да першай рэвалюцыі, потым да другой. А што было пасля, мы ведаем.

А ў нас летась забаставала метро. Каля шасцідзесяці чалавек звольнілі, аб'явілі іх ледзь не ворагамі народа. Але дзе логіка?

Рабочы рух быў заўсёды, ёсць і будзе. Бастуюць як на Захадзе, так і на Усходзе. Ніхто нікога не саджае, не звальняе. Цікавая рэч: да рэвалюцыі забастоўкі былі правільныя, а пасля яе — няправільныя.

Чалавек у асноўных сваіх памкненнях ніколі не мяняецца. Учора хацеў есці, сёння таксама. Мяняюцца палітыкі. Накшталт хамелеона...

■

«Эйфарыя (ад грэч. eyphoria) — павышаны, радасны, вясёлы настрой, стан лагоднасці і бестурботнасці, што адпавядаюць аб'ектыўным абставінам, пры якім назіраецца мімічнае і агульнае рухальнае ажыўленне, псіхаматорнае ўзбуджэнне». (Псіхалогія. Даведнік. М., 1990 г.)

Часта гэты тэрмін няправільна ўжываюць, разумеючы пад ім нешта іншае. Правільна: калі няма адпаведнасці аб'ектыўным абставінам...

■

Гэта праўда, многія пачуцці, інстынкты перадаюцца на генным узроўні. Калі б гэта яшчэ не было даказана навукова, эксперыментальна, то і тады б у гэтым не было сумнення.

Напрыклад, страх. Пад канец народнага сходу галасавалі, і 11 чалавек былі супраць рэзалюцыі. Безадносна да тэмы галасавання магу ўпэўнена сказаць, што астатнія некалькі тысяч у душы адчувалі ўрачыстасць: я не трапіў у лік гэтых адзінаццаці! Бо — страшна. Дастаткова было рэанімаваць атмасферу дваццаць якога-небудзь з'езда партыі — і страшна. Значыць, усё ў памяці жывое, невялікі раздражняльнік — і псіхіка адрэагавала згодна з закладзенай калісьці праграмай.

З другога боку, немагчыма ўявіць, каб на з'ездзе КПСС быў нехта супраць. Такога проста не магло быць. Вось дзе дасягненне. Без жартаў, дасягненне. Нават на такім правераным сходзе аказаліся нязгодныя. Думаю, не важна, колькі іх было. Хоць бы і адзін...

■

Я некалі неабдумана напісаў, што людзей у мінулае вабіць каўбаса па 2.20, за што быў падвергнуты астракізму з боку аднаго чытача. Правільна ён мяне адчытаў. Бяру свае словы назад.

На самай справе каўбаса тут, вядома ж, ні пры чым. Вабіла і вабіць атмасфера бестурботнасці, беспраблемнасці. Галоўнай праблемай была, відаць, кватэра. Ну што гэта за праблема, калі браць па вялікаму рахунку? Яўна не сусветнага маштабу. Тым больш, рана ці позна вырашальная.

Затое ўсе кардынальныя пытанні жыцця і смерці былі вырашаны канчаткова. Бога няма, чалавек смяротны, свет матэрыяльны, камунізм ёсць светлае будучае ўсяго чалавецтва і г. д. Было зручна, па сабе памятаю: галава нічым пабочным не забіта — толькі практычныя пытанні: калі будзе стыпендыя (зарплата), з кім пайсці на танцы, дзе дастаць джынсы...

Зараз думай, думай — галава распухла. Камунізму не відаць, а Бог, кажуць, ужо як бы і ёсць, — адным словам, сістэма каардынат поўнасцю разбурылася, а новай ніхто будаваць не спяшаецца. І нічога не падказваюць, гады.

На самай справе грамадства падзялілася не на левых і правых, а на тых, хто не можа ці не хоча выйсці з атмасферы 20-гадовай даўнасці, і тых, хто па той ці іншай прычыне ўжо выйшаў.

На гэтым будуецца ўся сучасная беларуская палітыка...

■

Думаю, палітыку трэба дакладна ўяўляць, якое пакаленне зараз пераважае ў грамадстве. Гэта для яго пытанне палітычнага жыцця і смерці. Адыход ад рэальнасці пагражае нябытам.

Зараз умовы гульні дыктуюць людзі 80-х, падымацца яны пачалі тады, а сёння падняліся канчаткова. Адной нагой яны там, другой — тут. Выхаваныя па пэўных правілах, гэтыя людзі, аднак, паспыталі вольнага жыцця. Да старога яны не вернуцца, але ім яшчэ страшна да канца паверыць у новыя грамадскія адносіны.

Калі мы гаворым пра пераходны перыяд, то вось гэта ён і ёсць: пераход палітычнай і эканамічнай улады ад пакалення 80-х да пакалення, умоўна скажам, 90-х. Пераходны этап будзе доўжыцца столькі, колькі часу зойме пераход улады.

Усе далейшыя палітычныя катаклізмы будуць звязаны з гэтым і толькі з гэтым...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ...МІНІСТЭРСТВА ГАНДЛЮ БУДЗЕ ЛІКВІДАВАНА

**З неафіцыяльных крыніц журналістам «Звязды» была атрымана інфармацыя аб тым, што нібыта Міністэрства гандлю краіны збіраюцца ліквідаваць, зліўшы яго або з Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання, або з Міністэрствам знешнеэканамічных сувязей. З гэтай нагоды міністр гандлю нават быў у Прэзідэнта, абгрунтоўваючы нямэтазгоднасць такога рашэння. З просьбай удакладніць, ці так гэта на самай справе (а калі факт адпавядае рэчаіснасці, чаму ўзнікла такая неабходнасць), мы звярнуліся непасрэдна да першакрыніцы — міністра гандлю Пятра КАЗЛОВА.**

— Ваша пытанне сапраўды мае пад сабой глебу, — адказаў Пётр Афанасьевіч. — Пытанне аб скасаванні Міністэрства гандлю (як, зрэшты, і некаторых іншых міністэрстваў) абмяркоўвалася пры распрацоўцы генеральнай схемы кіравання народнай гаспадаркай. Узнімалася яно і ў Кабінеце Міністраў і ў Прэзідэнта. Па праўдзе, гэта праблема далёка не новая, я чуў аб ёй недзе 5-6 гадоў таму, пасля яна ўзнікала зноў і зноў праз пэўны прамежак часу. Што можна сказаць наконт гэтага? Ад сябе магу зазначыць, што стаць міністрам не так проста: патрэбен час, каб стаць на ногі, набраць моц і г. д. Асабіста я лічу, што карэнныя змяненні ў гэтай галіне зараз нямэтазгодныя. Мяркую, у прыватнасці, што наша міністэрства за апошнія год-паўтара ўнесла свой уклад у забеспячэнне рынку краіны таварамі. Нездарма пры абмеркаванні гэтага пытання ў Кабінеце Міністраў усе выказаліся супраць, як у дачыненні Міністэрства гандлю, так і іншых міністэрстваў. Думаю, мы яшчэ папрацуем!

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# КАНТРОЛЬНАЯ ПАЛАТА БЕЛАРУСІ ПАПЯРЭДЖВАЕ: ГАНДЛЮЙЦЕ З РОЗУМАМ

**Для любой краіны з беднымі прыроднымі рэсурсамі знешні гандаль становіцца важнай крыніцай існавання. Каб краіна магла жыць у дастатку, ёй неабходна выпускаць толькі канкурэнтаздольную прадукцыю, а таксама паспяхова гандляваць ёю на знешнім рынку. Пераходзячы на рыначныя рэйкі, многія прадпрыемствы рэспублікі самастойна выходзяць на сусветны рынак са сваімі таварамі. Аднак любая знешнеэканамічная дзейнасць павінна быць строга падсправаздачнай дзяржаве. Гэты кантроль будзе эфектыўным толькі ў тым выпадку, калі набудзе дакладны выгляд закона. Менавіта гэтыя праблемы і былі ўзняты на семінары-нарадзе «Аб практыцы кантролю знешнеэканамічнай дзейнасці», якую праводзіла Кантрольная палата ў Брэсце.**

Беларусь, як вядома, валодае магутным прамысловым комплексам, і асноўная яе прадукцыя павінна прадавацца за мяжой. Доля тавараў, якія прадаюцца за межы рэспублікі, складае больш за 40 працэнтаў ва ўнутраным валавым прадукце краіны. Каб эканоміка краіны стабільна трымалася на плаву і прыносіла хоць бы невялікія дывідэнды, знешнеэканамічная дзейнасць павінна забяспечваць станоўчае гандлёвае сальда.

### САЛЬДА АДМОЎНАЕ

Паводле даных загадчыка аддзела кантролю знешнеэканамічнай дзейнасці КП Беларусі Валерыя Шастоўскага, за першае паўгоддзе 1996 года знешнегандлёвы абарот у параўнанні з такім жа перыядам мінулага года павялічыўся на 30 працэнтаў і склаў амаль 6 млрд. долараў ЗША. На жаль, павелічэнне закупак замежных тавараў не ў поўнай меры кампенсавалася айчыннай прадукцыяй. За гэты час імпарт павялічыўся на 35 працэнтаў, а экспарт — толькі на 23 працэнты, прычым у краіны далёкага замежжа пры павелічэнні імпарту на 48,5 працэнта, экспарт знізіўся больш чым на 8 працэнтаў. Амаль на чвэрць знізіўся экспарт угнаенняў і трактароў, на 35 працэнтаў упаў аб'ём прададзеных за мяжу халадзільнікаў, пластмасы і вырабаў з яе — на 47 працэнтаў, хімічных валокнаў — больш чым напалову. Адбываецца далейшае зніжэнне аб'ёмаў збыту айчынных прадуктаў харчавання, у той час як імпарт іх павялічыўся на 27 працэнтаў, а алкагольных і безалкагольных напояў — у 10 разоў!

Адмоўнае сальда знешнегандлёвага абароту, якое за 6 месяцаў гэтага года склала 913,6 млн. долараў ЗША, вызначае агульны стан эканомікі. У такой сітуацыі трэба разглядаць розныя формы тарыфнага і нетарыфнага рэгулявання пры праходжанні тавару праз мяжу рэспублікі. Ствараючы гэтыя ўмовы, не варта забываць аб уласных таваравытворцах, але і не адпіхваць імпарцёраў. Пры значным павышэнні пошлін на імпарт, пры слабой канкурэнцыі і бедным унутраным рынку айчынныя манапалісты будуць неабгрунтавана ўзнімаць цану на свае тавары.

### КУРС ДОЛАРА — НЕ ТОЙ

Значны ўплыў на знешнеэканамічную дзейнасць рэспублікі аказвае штучнае падтрыманне курса рубля да долара ЗША ва ўмовах пастаяннага росту затрат. Гэта ў сваю чаргу прывяло да значнай стратнасці многіх вытворчасцей. Рэнтабельнасць экспартных матацыклаў ММВЗ знізілася з 14,5 працэнта ў снежні 1994 года да мінус 37,8 працэнта на пачатак гэтага года. Да мінусавай упала рэнтабельнасць даволі прыбытковых у мінулым мінскіх халадзільнікаў «Мінск-215». І ўсё таму, што затраты выраслі ў 3,2 раза, а кантрактная цана — усяго ў паўтара.

Пры такім курсе долара нашым фабрыкам і заводам, на думку спецыялістаў Кантрольнай палаты Беларусі, гандляваць з замежжам проста нявыгадна. Пры абвальным спадзе вытворчасці накладныя расходы на адзінку прадукцыі толькі растуць. Пры гэтым працягваецца рост цэн на энерганосьбіты, сыравіну і матэрыялы. А гэта прыводзіць да таго, што цэны на нацыянальныя тавары становяцца неканкурэнтаздольнымі на сусветным рынку.

### БЕЗГАСПАДАРЧАСЦЬ ПЛЮС БЕСТАЛКОВАСЦЬ

І без таго складаная сітуацыя ў знешнім гандлі яшчэ больш ускладняецца пастаяннымі парушэннямі пры ажыццяўленні экспартна-імпартных аперацый. Кантрольная палата рэспублікі ўстанавіла, што продаж гарбарнай сыравіны і скуры вёўся на падставе заведама неэфектыўных кантрактаў. Напрыклад, Віцебскі, Жлобінскі, Калінкавіцкі мясакамбінаты і Мінскае вытворчае аб'яднанне мяса-малочнай прамысловасці прадавалі скуру і гарбарную сыравіну па заведама нізкіх цэнах. Агульная сума нанесеных дзяржаве страт склала больш як 311 тысяч USD.

Яшчэ больш значны ўрон бюджэту краіны наносіць недасканалы механізм спагнання акцызаў пры продажы алкагольных напояў. Толькі ў ходзе праверак устаноўлена, што за 7 месяцаў гэтага года з экспартаваных 167.431,1 дал алкаголю вытворчасці Мінскага вінна-гарэлачнага завода «Крышталь» на 13.088 дал, або 8 працэнтаў, не пацверджана «дабро» мытні. А гэта азначае, што бюджэт недаатрымаў больш за 4 млрд. 180 млн. рублёў акцызных паступленняў.

### ПАРУШЭННІ МЫТНАГА ЗАКАНАДАЎСТВА

Велізарныя па сваіх маштабах страты нясе дзяржава пры незаконным прадастаўленні адтэрміновак і льгот па мытных плацяжах. Падобная адтэрміноўка гандлёва-экспазіцыйнаму прадпрыемству «Гандаль-экспа» дала магчымасць за два месяцы вывезці і аформіць на Полацкай мытні больш як 16 мільёнаў літраў алкагольных напояў, 628 легкавых аўтамабіляў і іншых тавараў на суму 42 мільёны долараў. У выніку парушэнняў толькі на Полацкай мытні нашу краіну «надулі» больш чым на 3 трыльёны рублёў. Здавалася б, злодзей знойдзены і схоплены за руку. Аднак такая салідная сума, параўнальная бадай толькі з даходам мытні рэспублікі за мінулы год, да гэтага часу не вернута ў скарбонку дзяржавы.

### НЯРОЎНЫ ШЛЮБ

Як прыемна чуць нам аб стварэнні сумесных і замежных прадпрыемстваў. Але і тут не абышлося без злосных парушэнняў. І што ж у выніку? Як правіла, чыноўнікам напляваць на тое, як фарміруецца статутны фонд сумесных прадпрыемстваў. На 90 прадпрыемствах з доляй замежных інвестыцый груба заніжаны аб'ём удзелу ў статутным фондзе беларускага боку. Акрамя страт дзяржаўнай уласнасці гэта адбіваецца і на велічыні атрымліваемых дывідэндаў. Няправільна сфарміраваныя статутныя фонды сумесных прадпрыемстваў прыводзяць да неабгрунтаванага карыстання падатковымі льготамі. Каб атрымаць такія льготы, прадстаўнікі беларускага боку іншы раз свядома ідуць на заніжэнне сваёй долі і парушэнне заканадаўства.

Усяго аддзеламі і інспекцыямі Кантрольнай палаты Беларусі выяўлены нанесеныя дзяржаве страты на агульную суму 48 млн. 330 тыс. долараў і 3 трыльёны 500 мільярдаў рублёў.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# МАРШРУТ-«ДУШАГУБКА» ЧАКАЕ СВАІХ АХВЯР?

Не паспела высахнуць чарніла на матэрыяле аб дрэннай рабоце сталічнага аўтобуснага маршруту № 20 («Звязда», 31 кастрычніка сёлетняга года), як незапланаваныя абставіны вымусілі зноў узяцца за пяро з гэтай нагоды.

Нагадаю, што ў папярэднім артыкуле гаворка ішла аб тым, як цяжка дабірацца мноству жыхароў на працу і дахаты на аўтобусах № 20. Як паказалі апошнія падзеі, гэта не так цяжка, як небяспечна. Карыстаючыся пэўным маршрутам паўтара года, нават я, загартаваны колішнімі «штурмамі» прыгараднага транспарту двойчы на дзень на працягу пяці гадоў запар, быў ашаломлены тым, што тварылася на працягу ўсяго вышэйпамянёнага маршруту грамадскага транспарту 4 лістапада, пачынаючы з 16 гадзін (той час, калі ўсё бачыў на свае вочы). Не буду засяроджваць увагу на 40-хвілінным чаканні каля Акадэміі навук, дзе сабралася каля 150 чалавек, якіх не змаглі «развезці» тры аўтобусы, што падышлі па чарзе (два — № 92 і адзін — «дваццатка»), а больш-менш падрабязна апішу далейшы шлях гаротнікаў-пасажыраў, якім нарэшце ўдалося ўціснуцца ў аўтобус. Так, ужо на наступным прыпынку зайсці ў аўтобус змаглі толькі некалькі чалавек, хаця за дзвярыма іх было каля сотні. На астатніх машына хаця і спынялася, але дзверы вадзіцель адчыніць ужо не мог — столькі ў салоне было людзей. Бадай, самае жудаснае чакала на прыпынку «Радыяльная», дзе ў чаканні падыходзячага транспарту мітусілася каля дзвюх соцень адпрацаваўшых на Трактарным заводзе чалавек (падлік у такіх выпадках вядзецца па міліцэйскіх мерках: 4 чалавекі на квадратны метр плошчы). Стогны ў салоне, маты на прыпынку, разгон і тармажэнне аўтобуса вадзіцелем, каб яшчэ неяк «збіць» у адно цэлае пасажыраў і даць магчымасць увайсці хаця б некалькім чалавекам... Цікава, ці бачыў хто з транспартных начальнікаў, як нават здаровыя мужчыны стаяць у салоне аўтобуса пад націскам натоўпу ў выглядзе літары «зю». І ці чуў, як енчаць жанчыны, просячы адчыніць форткі і люкі, паколькі тэмпература ўнутры аўтобуса нагадвае лазню? Тое ж самае чакала і на наступным прыпынку, дзе было не менш людзей. Зразумела, увайсці ўдалося зноў толькі некалькім дужым і нахабным мужчынам...

Ведаеце, журналісцкая праца, як гэта непрыемна ні прагучыць, з цягам часу прывучае да пэўнага цынізму, але тое, што бачыў у той дзень на свае вочы, моцна ўразіла. Магчыма, прагучыць кашчунна, але падаецца, што немцы ў вайну больш «камфартабельна» перавозілі зняволеных, чым зараз айчынны транспарт возіць пасажыраў за іх грошы. Гэта не перабольшанне — я гатоў падпісацца пад кожным словам у гэтым матэрыяле. Больш таго, запрасіць любога кіраўніка праехаць са мной (не на службовай машыне!) на аўтобусе № 20 у любы час сутак, каб разам з кіруючай асобай адчуць яшчэ раз усе прывабнасці «падарожжа». Ці мо павінна здарыцца трагедыя, пакуль нешта зменіцца да лепшага? Барані Божа, каб нешта здарылася з аўтобусам на шляху, у якім людзей — як селядцоў у бочцы і які ледзь цягне сваё «нутро» па дарозе. Паглядзіце, што творыцца на канцавых прыпынках. Тых, хто выходзіць з аўтобуса, ледзь не выкідваюць з салона, не топчуць стомленыя ў чаканні на прыпынку пасажыры. Ці сапраўды некаму патрэбна трагедыя? Не ведаю, што можна тэрмінова змяніць да лепшага, таму звяртаюся да кіраўніцтва МГП «Мінскпасажыраўтатранс»: калі ласка, звярніце ўвагу на гэты маршрут, бо да бяды — адзін крок...

**АД АЎТАРА. Хто сапраўды добра арыентуецца ў сітуацыі (хіба «Звязду» чытаюць?!) — дык гэта таксісты-прыватнікі, якія за тыдзень наладзілі рэгулярныя рэйсы «Ангарская — Акадэмія навук» па 7 тысяч рублёў за паездку. Зручнасць, вядома, але ніякіх грошай не хопіць нават раз у дзень карыстацца гэтай паслугай, тым больш што маеш праязны на аўтобус. Зрэшты, 4 лістапада ўпершыню за доўгі час заўважыў на прыпынку каля Акадэміі навук і дзяржаўнае таксі. Мабыць, кан'юнктура вымушае...**

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

ВЫТВОРЧЫЯ ДРАМЫ

# КАРАБЕЛЫ ЯШЧЭ ЗМАГАЮЦЦА ЗА МЕСЦА ПАД СОНЦАМ

## Расказ аб тым, як лёгка стаць злосным даўжнікам не па сваёй волі

РЭЧЫЦКІ СУДНАБУДАЎНІЧА-СУДНАРАМОНТНЫ ЗАВОД да распаду Саюза штогод выпрабляў 24 судны, а таксама баржы, пантоны і яшчэ гаражы для легкавых аўтамабіляў.

Сёлета ледзь-ледзь здалі два сухагрузы. І тыя — не для Беларусі, бо сёння ў рэспубліцы на гэтую прадукцыю попыту няма. Параходства, якое раней было асноўным заказчыкам, прадае раней выробленыя караблі ў Польшчу і іншыя краіны для разрэзкі на металалом, вядома ж, па адпаведнай цане. На двары прадпрыемства і на беразе Дняпра каля дзесятка старых, нікому непатрэбных, ужо саржавелых суднаў, якім таксама адна дарога — на пераплаўку. Вырабляць аўтагаражы сёння ўсё роўна, што сячы сук, на якім сядзіш: тона металу каштуе 380 долараў, прадукцыя не знойдзе пакупніка. Завод паранейшаму будуе судны. Але якой цаной?

Кантактаваць з галандцамі рэчычане пачалі яшчэ ў 1992 годзе. Як адзначыў дырэктар прадпрыемства Віктар Кавалёў, вельмі своечасова — з таго самага часу і да гэтай пары ад айчыннага рачнога параходства, на патрэбы якога працаваў завод, ніводнага заказу не паступіла. Зрэшты, гэта зразумела: аб'ёмы перавозак рачным транспартам вельмі знізіліся, колькасць суднаў у портах скарацілася амаль напалову. Першы кантракт быў заключаны ў лютым 1992 года. Фінансаванне яго ажыццяўлялася за кошт крэдытных рэсурсаў: прадпрыемства брала крэдыт, пастаўляла гатовае судна, атрымлівала разлік, чым аплачвала банкаўскі крэдыт і мела прыбытак. За кароткі тэрмін рэчыцкія карабелы транспартавалі ў Галандыю шэсць барж. У сярэдзіне 1994 года пачалі працаваць над новым праектам — будаўніцтва вялікагрузнага судна. Падобную тэхніку рэчыцкія карабелы рабілі першымі ў рэспубліцы, зрэшты, пакуль і апошнімі. На жаль, галандскім партнёрам спатрэбілася паўтара года на распрацоўку праекта судна. А за гэты час у крэдытна-фінансавай палітыцы нашай дзяржавы адбыліся значныя змяненні, якія істотна паўплывалі на справы невялікага завода. Да 1994-га, калі прадпрыемства будавала за кошт крэдытаў, працэнтныя стаўкі па іх былі нізкімі, рост курса ж — высокі. Толькі за кошт розніцы курсаў завод меў высокую рэнтабельнасць. Са снежня 1994 года стаўкі па крэдытных рэсурсах узраслі. Спецыфіка ж суднабудавання такая, што судна будуецца па частках. Пакуль яно будзе гатова, працэнты «набягаюць» па раней выдадзеных крэдытах. У выніку пры сабекошце першага сухагруза 12 мільярдаў рублёў, 5 мільярдаў склалі працэнты па крэдытах. Але гэта — яшчэ паўбяды, бо метал быў закуплены танны, і страты па судну, якое было накіравана ў Галандыю ў студзені мінулага года, склалі дзесьці каля 1 мільярда рублёў.

Але і другі блін аказаўся камяком, да таго ж яшчэ большым. Ледзь праглынулі яго рэчыцкія карабелы. Другі сухагруз каштаваў значна больш, бо метал ужо закуплялі па высокай цане, дадайце сюды страты на электраэнергію. У Санкт-Пецярбург у сакавіку бягучага года Віктар Міхайлавіч ехаў на сустрэчу з партнёрамі, нібы на пакаранне. На шчасце, галандскі канцэрн «Дамэн» згадзіўся аплаціць рэшткі сумы па кантракту, але ж пад гарантыі банка. На шчасце, і «Белпрамбудбанк» у гарантыях не адмовіў. Але пад заклад маёмасці. Ды вось «падножка»: у адпаведнасці з указам Прэзідэнта, заклад маёмасці на суму звыш 1 мільярда рублёў адбываецца са згоды Адміністрацыі Прэзідэнта. Дазвол прыйшоў 14 ліпеня, а з сакавіка па ліпень магутнасці завода былі загружаны ўсяго напалову. Калі атрымалі грошы, змаглі разлічыцца з людзьмі па зарплаце са студзеня па май. Спусціў завод карабель 24 ліпеня на ваду і зноў спыніўся. Агульная сума страт ад выканання двух заказаў склала 12 мільярдаў рублёў.

Падчас сустрэчы ў верасні з галандскімі партнёрамі нашай дэлегацыі на чале з намеснікам міністра транспарту і камунікацый Уладзімірам Уласенем, давялося дамовіцца аб далейшым супрацоўніцтве. Зноў жа пад гарантыі банка замежныя партнёры згодны працаваць. Нават наперад гатовыя аплаціць частку работ. Гэтыя сродкі будуць накіраваны на зарплату рабочым. Суднабудаўнікоў на заводзе трыста, памер сярэдняй зарплаты у ліпені склаў 1 мільён 800 тысяч рублёў. Але ж выкананне новага кантракта — будаўніцтва яшчэ двух сухагрузаў — дазволіць толькі загрузіць завод на поўную магутнасць на працягу года, але ж не пазбавіць даўгоў. З кожнага судна, па падліках спецыялістаў, чакаецца прыбытак у памеры паўтара мільярда рублёў, а памер даўгоў амаль у дзесяць разоў большы.

Адзіным магчымым выйсцем работнікам завода бачыцца акцыяніраванне, што і прапанавалі яны партнёрам. Аднак галандскі бок асаблівага жадання не выказаў, бо ёсць у замежных заказчыкаў сумненні наконт магчымасці работы завода з прыбыткам. Ды і банку не вельмі хочацца браць пакет акцый у памеры даўгоў прадпрыемства.

І ўсё ж у завода няма альтэрнатывы. Каб добра працаваць, трэба зменшыць падатковы прэс. Вопыт Польшчы паказвае, што мудрая падатковая палітыка дзяржавы дазваляе невялікім верфям «падняцца». Адпраўляючы на экспарт сваю прадукцыю, яны і падаткі плацяць спраўна, і самі не бяднеюць. Да таго ж, невялікія айчынныя прадпрыемствы не маюць і інфармацыйнай падтрымкі дзяржавы. Рэчычане самі не аднойчы спрабавалі выйсці на міжнародны ўзровень, накіроўвалі пісьмы ва ўсе порты на Чорным моры, праз гандлёвае прадстаўніцтва Германіі наладжвалі кантакты. Усё дарэмна. Тут дапамога дзяржавы была б вельмі дарэчы. Прынамсі, у апошні час Міністэрства транспарту і камунікацый падтрымала завод. Але ж ці не будзе прадпрыемства злосным даўжніком не па ўласнай волі і далей, або знойдуцца мудрыя шляхі вырашэння гэтай няпростай сітуацыі? Пакуль жа Рэчыцкі суднарамонтны павінен вось-вось прыступіць да выканання кантракта. Дасць Бог, не апошняга.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**



# СТО ГАДОЎ ТЭЛЕФАНІЗАЦЫІ

**Мой настольны каляндар пра гэта абмовіўся яшчэ ўлетку: «Сёлета спаўняецца 100 гадоў, як у Мінску пачала дзейнічаць тэлефонная станцыя агульнага карыстання, першая на тэрыторыі Беларусі». Давялося тэрмінова выйсці на сувязь як з гісторыяй, так і з сучаснасцю...**

## СТАГОДДЗЕ ТАМУ

Першы на тэрыторыі Беларусі тэлефонны званок пачуўся задоўга да 14 лістапада 1896-га. Як можна даведацца з гістарычных крыніц (прынамсі, з кнігі гісторыка Захара Шыбекі «Мінск. Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада»), ужо ў канцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя зручная навінка тэхнічнага прагрэсу мелася ў некаторых гарадах і маёнтках. Напрыклад, карысталіся тэлефонам паны Здзяхоўскія ў Ракаве, жыхары маёнтка графаў Тышкевічаў у Лагойску. Хутка набыў папулярнасць тэлефон з-за перспектывы паскарэння гандлёвых аперацый і ў мясцовай буржуазіі. Праўда, разгулявацца з гэтым апошнім «піскам» прагрэсу не ўдавалася з-за абмежаванасці сувязі на пэўнай тэрыторыі. З архіўных матэрыялаў вядома таксама аб узнікненні першага тэлефона грамадскага карыстання. Гэта здарылася ў 1886 годзе ў Віцебску. Яшчэ праз чатыры гады тэлефонная сувязь ужо мелася паміж паліцэйскімі ўправамі і адміністрацыйнымі будынкамі. Але некалькі гадоў гарадскія ўлады не спяшаліся з укараненнем гэтага дасягнення тэхнікі ў масы — па той прычыне, што на гэта трэба было мець спецыяльную дамоўленасць з дзяржавай. У рэшце рэшт, тагачасны ўрад стаў праводзіць тэлефанізацыю ў планавым, скажам так, парадку. У 1896 годзе па распараджэнню ўрада першая на Беларусі тэлефонная станцыя была ўведзена ў Мінску. Да тэлефоннай сеткі было падключана 57 апаратаў, якія належалі 53 абанентам, а агульная даўжыня ўсіх ліній складала 12 вёрст 114 сажняў (памножце на 2,1 — атрымаецца ў метрах). У 1910 годзе лініі ўжо цягнуліся на 49 вёрст, а ў 1914-м абанентаў і апаратаў было адпаведна 888 і 963.

Колькі ж каштавала тады валоданне тэлефонам нашаму земляку? Не сказаць каб танна! У радыусе 2 вёрст ад тэлефоннай станцыі плата за абанемент складала 75 рублёў, а на кожную вярсту адлегласці набаўлялася яшчэ па 15 рублёў. Чысты прыбытак ад эксплуатацыі тэлефона ў 1908 годзе складаў ажно 61,8 працэнта ад агульнага даходу. У 1911 годзе была наладжана і першая лінія міжгародняй сувязі — паміж губернскім Мінскам і павятовым Барысавам. Цікава, што яна стала чацвёртай па ліку сярод падобных ліній, што меліся ў Расіі на той час.

Дом, дзе месцілася першая тэлефонная станцыя (разам з паштова-тэлеграфным агенцтвам), стаяў на тым месцы, дзе цяпер дом № 14 па вул. Леніна ў сталіцы. Будынак быў адзін з найпрыгажэйшых у Мінску, вышынёю ў чатыры паверхі, зваўся домам Карказовіча і меў тады адрас Губернатарская, 34. Ён не захаваўся.

## СЁННЯ

Паводле звестак Міністэрства сувязі і інфарматыкі РБ, зараз у нашай краіне 3540 гарадскіх і сельскіх тэлефонных станцый. Іх агульная манціраваная ёмістасць (гэта значыць колькасць магчымых абанентаў) складае 2.231.700 нумароў. Усяго ў сістэме Мінсувязі падключана 2.087.829 тэлефонных апаратаў.

Паколькі першая станцыя ўзнікла менавіта ў Мінску, аб сённяшніх рэаліях і праблемах я вырашыла пагутарыць з дырэктарам Мінскіх гарадскіх тэлефонных сетак Іванам ЖАБКО. Іван Браніслававіч падзякаваў за віншаванні ў адрас усіх работнікаў сувязі і дадаў, што віншаваць пакуль заўчасна: дата юбілею, 14 лістапада, яшчэ далёка, пакуль за працай не да святаў. Але ўсё ж самы час падвесці некаторыя вынікі.

**— Іван Браніслававіч, скажыце, калі ласка, колькі сёння тэлефонаў на двухмільённую сталіцу?**

— Зараз на сетцы налічваецца больш як 550 тысяч нумароў, з іх 280 тысяч уведзены за апошнія дзесяць гадоў. Больш як 80 працэнтаў кватэр мінчан тэлефанізаваны.

**— Ці доўгая чарга сярод тых, хто пакуль без тэлефона?**

— Зараз мы маем каля 60 тысяч заяў на ўстаноўку тэлефона. Зусім нядаўна ўвялі 22 тысячы новых нумароў, у гэтым годзе будзе ўведзена яшчэ трыццаць тысяч.

**— Значыць, ужо не трэба чакаць гадоў дзесяць ад моманту падачы заявы? Як хутка зараз рухаецца чарга?**

— Гэта залежыць ад таго, у якім раёне жыве сям'я. На сёння чаргу мы практычна «закрылі» ў раёнах Шабаноў, Курасоўшчыны, Асаналіева, трактарнага завода. Сёлета задаволім попыт на ўстаноўку тэлефонаў у Серабранцы, раёнах вуліц Уральскай, Ангарскай, Герасіменкі, Дражні, Мендзялеева. Нядаўна ўвялі 12 тысяч нумароў у Малінаўцы, плануецца ў гэтым напрамку працаваць у новых раёнах (Сухарава, Кунцаўшчына), а таксама ў цэнтральных (бульвар Шаўчэнкі, вуліцы К. Лібкнехта, Волаха), дзе чарга яшчэ з мінулых гадоў. Пры такім тэмпе праз 2-3 гады мы павінны ўвогуле закрыць «тэлефоннае» пытанне для Мінска. Былі б толькі грошы. У некаторых выпадках абанентамі становяцца тыя, хто толькі што падаў заяву, па тарыфу «па-за чаргой».

**— Калі можна, больш падрабязна пра гэтую катэгорыю грамадзян.**

— Гэта не катэгорыя грамадзян. Проста там, дзе ў нас ёсць магчымасць, устанаўліваем тэлефоны, нягледзячы на чаргу, але за павышаную плату — за пяць з паловай мільёнаў рублёў. Каля 10 працэнтаў уводзімых аб'ёмаў аддаём на такія ўстаноўкі, каб на гэтыя сродкі развівацца далей.

**— А колькі каштуе ўстаноўка тэлефона ў парадку чаргі?**

— Паўтара мільёна. Плюс улік ільготных катэгорый, якіх у нас вельмі шмат. Інваліды або былыя абаненты, напрыклад, плацяць 300 тысяч. Некаторым грамадзянам увогуле бясплатна.

На стварэнне аднаго абаненцкага нумара затрачваецца каля 600 долараў, так што ад установачнай платы мы мала што маем. Калі ўлічыць, што абанементная плата нізкая, каля 30 тысяч у месяц, можна палічыць акупнасць аднаго нумара...

**— Часам даводзіцца чуць ад людзей, што плаціць ім, наадварот, даводзіцца шмат.**

— Але ж мы зараз увялі ўлік кошту размоў па гадзінах. Таму ўсё залежыць ад гаварлівасці абанента.

**— Так. Ды вось што атрымліваецца: калі ўсё ясна з міжгарадам — прыходзіць квітанцыя, дзе ўсё распісана па хвілінах і датах, — то наконт аплаты гарадскіх размоў часам узнікаюць пытанні. Нашы чытачы пытаюцца, напрыклад: куды можна звярнуцца, каб ліквідаваць магчымыя недарэчнасці?**

— Існуючая сёння тэхніка не дазваляе запісваць кожную мясцовую размову. Таму мы можам тых, хто скардзіцца, ставіць на кантроль і правяраць, колькі яны размаўляюць. У далейшым, з развіццём тэхнікі, у ходзе замены ўстарэлых станцый, якіх сёння на сетках больш за палову, гэтая паслуга і будзе выкарыстоўвацца.

**— Што гэта за новыя гарадскія нумары праз «8»?**

— «Васьмёрка» — гэта накладзеная лічбавая сетка ў горадзе Мінску ёмістасцю на пяць тысяч нумароў, якая ўключана проста ў міжгароднюю тэлефонную станцыю. Каб выйсці на яе абанента, трэба набраць «8», «2» і сямізначны нумар. Сам абанент гэтай сеткі звоніць, як любы іншы, — пасля ўвядзення сямізначных нумароў мала што адрозніваецца...

**— Народ прыдумаў «тэлефоннае» выслоўе: «Маёр на провадзе». Пры ўсім яго гумары многіх усур'ёз цікавіць пытанне аб супрацоўніцтве вашай сістэмы з праваахоўнымі органамі. Наколькі яно цеснае?**

— Настолькі, наколькі гэта адпавядае законам, якімі кіруемся і мы, і органы праваахновы. Ніякіх адступленняў ад закона ў нас няма. У той частцы, дзе гэта прадугледжана, мы супрацоўнічаем, паколькі абавязаны аказваць дапамогу. Але ўсё ў адпаведнасці з заканадаўствам.

**— Так, зразумела, калі сапраўды ёсць небяспека для людзей, любы сумленны чалавек будзе садзейнічаць яе ліквідацыі. Але ці нельга пра гэтыя законы больш падрабязна?**

— Яны зусім не з'яўляюцца сакрэтам. Гэта законы аб міліцыі, аб пракуратуры і інш. Іх друкуюць газеты.

**— Давайце вернемся да праблем сувязістаў. Акрамя ўстарэлага абсталявання, што сёння вас найбольш хвалюе?**

— Сёння галоўнае — ліквідаваць чаргу на ўстаноўку тэлефонаў, павысіць якасць работы сеткі. І каб нашы таксафоны добра працавалі, каб іх не ламалі. Вельмі шмат вылоўліваем гэтых вандалаў з дапамогай міліцыі і іншых службаў. Зладзеі здымаюць таксафоны, крадуць іх, выломваюць новыя, каб нажыцца на тэлефонных картках. Карткі, якія правальваюцца, дастаюць і перапрадаюць. Часта спецыяльна робяць, каб карткі правальваліся. Так што вялікая просьба і да міліцыі, і да прэсы: дапамагчы змагацца з гэтай навалай.

**Таццяна СНІТКО.**



**Акцыянернае таварыства «Белмедпрэпараты» — лідэр медыцынскай і мікрабіялагічнай прамысловасці, буйнейшы вытворца лекавых сродкаў у Беларусі і краінах СНД.**

**Прадукцыя «Белмедпрэпаратаў» адпавядае патрабаванням айчынных і амаль уся — міжнародных стандартаў.**

**Медпрэпараты беларускіх вытворцаў карыстаюцца ўстойлівым попытам у нашай краіне і за мяжой.**

Валерый ЦАРАНКОЎ:

# «МЫ РОБІМ СТАЎКУ НА РАСПРАЦОЎКУ І ВЫТВОРЧАСЦЬ НОВЫХ ЭФЕКТЫЎНЫХ ПРЭПАРАТАЎ»

**— Валерый Мінавіч, як вядома, у краінах з даўнімі традыцыямі дэмакратыі і рыначнай эканомікі гісторыя фірмы мае даволі значны ўплыў на яе аўтарытэт сярод спажыўцоў. Таму, калі ласка, некалькі слоў пра біяграфію «Белмедпрэпаратаў».**

— Нават па мерках тых краін, як вы сказалі, з даўнімі традыцыямі дэмакратыі, наша прадпрыемства даволі саліднае па ўзросту — праз год-другі яму споўніцца 70 гадоў. Акрамя таго, прадукцыя беларускіх вытворцаў медпрэпаратаў заўсёды карысталася добрай рэпутацыяй у медыкаў. Дастаткова сказаць, што першая партыя пеніцыліну была выпушчана ў Мінску. Гэтак жа як і першая партыя прамысловага гепарыну, а гэта дэфіцыт міжнароднага рынку — антыкаагулянт крыві. Першы стрэптаміцын — у нас. Мы былі піянерамі ў выпуску іншых вельмі патрэбных лекаў.

Потым нашы спецыялісты дапамагалі наладжваць іх серыйны выпуск у Расіі, Украіне, Індыі, Іраку, В'етнаме, Егіпце. Нават адзін гэты факт гаворыць аб высокай кваліфікацыі нашых спецыялістаў. І пасля развалу СССР, калі рэзка абарваліся многія гаспадарчыя сувязі, я зрабіў усё магчымае, каб захаваць нашы кадры. Бо яны, без перабольшання, наш залаты фонд.

**— Перад сустрэчай з вамі я даведаўся, што «Белмедпрэпараты» плануюць з новага года (пры ўмове, што ўсё будзе добра) нават павялічыць колькасць працуючых. Ведаеце, на сённяшні час, калі многія прадпрыемствы стаяць, а іншыя працуюць толькі 2-3 дні на тыдзень і дзе адной з мераў выхаду з крызісу бачаць скарачэнне штатаў, падобная навіна гучыць сенсацыйна. Растлумачце, навошта вам гэта трэба?**

— У першую чаргу пашырэнне вытворчасці звязана з вялікім навукова-тэхнічным патэнцыялам АТ «Белмедпрэпараты», рэалізацыяй шматлікіх распрацовак нашых спецыялістаў. Трэба сказаць, за апошнія два гады мы ўкаранілі ў вытворчасць каля сотні новых прэпаратаў. Заўважу, раней за 10-гадовы тэрмін мы наладжвалі выпуск толькі 3-4 прэпаратаў. Адчуваеце розніцу?

Такая інтэнсіўнасць стала магчымай дзякуючы, паўтаруся, наяўнасці вельмі вопытных кваліфікаваных кадраў, нарматыўна-тэхнічнай дакументацыі, адпаведнага абсталявання і шэрага іншых фактараў. Напрыклад, ніводная краіна СНД і Усходняй Еўропы не мае лепшай, чым у нас, лініі па разліву прэпаратаў інсуліну. Пад лініяй я маю на ўвазе суцэльны сучасны комплекс з навейшым абсталяваннем. Зараз мы заканчваем мантаж шэрага эфектыўнага абсталявання па павелічэнню выпуску кровазаменнікаў.

Магутны рывок у распрацоўцы і ўкараненні новых лекаў мы зрабілі ў многім дзякуючы пераўтварэнню цэнтральнай заводскай лабараторыі ў навукова-фармацэўтычны цэнтр. Мы пастараліся, каб ён меў сучасную матэрыяльную базу, быў абсталяваны неабходнымі вымяральнымі прыборамі, іншай даследчай тэхнікай. Там мы можам змадэліраваць любы тэхналагічны працэс у мініяцюры і потым перанесці гэта ў вытворчасць.

Сёння ў цэнтры працуюць каля 150 чалавек. Магчыма, іх колькасць узрасце, бо мы мяркуем пашырыць яго спецыялізацыю. Узначальвае цэнтр выдатны арганізатар і таленавіты вучоны, кандыдат навук Пётр Пятроў. Кожны супрацоўнік цэнтра вядзе сваю перспектыўную тэму. Без навукі фармацэўтычная вытворчасць не можа жыць. Гэта аксіёма. Інакш мы не здолеем забяспечваць насельніцтва лекамі цывілізаваным шляхам.

Адкрыю сакрэт: мы марым аб тым, каб у недалёкай будучыні ператварыць цэнтр у навукова-даследчы інстытут. Разумею, няма грошай. Але да гэтага мы некалі ўсё роўна прыйдзем. Гэты шлях ужо даўно апрабаваны буйнымі замежнымі фармацэўтычнымі фірмамі, дзе навука і вытворчасць дзейнічаюць у шчыльным кантакце. Дарэчы, фармацэўтычная галіна — адна з самых рэнтабельных на Захадзе. Думаецца, не выпадкова ва Украіне цяпер гэтая галіна аб'яўлена прыярытэтнай і карыстаецца адпаведнай увагай з боку дзяржавы.

А пакуль мы падтрымліваем цесныя сувязі з інстытутам гематалогіі і пералівання крыві, у нас цудоўныя адносіны з інстытутам анкалогіі і радыялогіі, НДІ біяарганічнай хіміі Акадэміі навук Беларусі, вучонымі Беларускага універсітэта. Супрацоўніцтва з імі дазваляе нам скарачаць этап медыка-біялагічных даследаванняў новых прэпаратаў. Напрыклад, па групе антыпухлінных лекаў, вытворчасць якіх вельмі патрэбна ў Беларусі.

**— Сёння АТ «Белмедпрэпараты» актыўна стварае сетку сваіх аптэк у Беларусі. Што гэта вам дае?**

— Так, сёння мы маем сем фірменных аптэк, некалькі кіёскаў па продажы прадукцыі сваёй вытворчасці. Гэта, хачу сказаць, даволі складаная справа, якая адымае ў нас шмат часу, сіл і грошай. Але мы ўсё ж займаемся ёю. Бо фірменныя аптэкі спрыяюць лепшаму знаёмству насельніцтва менавіта з нашай прадукцыяй, якая па якасці не ўступае замежным аналагам. Сярод кліентаў аптэк нямала медработнікаў бальніц і паліклінік, якія на практыцы могуць пераканацца ў вартасцях нашых лекаў.

**— Якія праблемы стаяць перад акцыянерным таварыствам?**

— Праблемы ў нас, як і ў іншых, — аднолькавыя. Востра не хапае сродкаў. Хаця нам дзяржава дапамагае па меры магчымасці, але ўсё роўна мы адчуваем велізарны дэфіцыт інвестыцый. Бо зношанасць нашага абсталявання ў асобных цэхах дасягнула 80—90 працэнтаў. У гэтай сітуацыі мы шукаем і нярэдка знаходзім іншыя нетрадыцыйныя шляхі фінансавання для замены абсталявання.

Як і ўсе, мы сёння вучымся працаваць ва ўмовах пераходу да рынку. Раней, да развалу СССР, у БССР заставалася толькі 17 працэнтаў нашай прадукцыі. Астатняя разыходзілася па саюзных рэспубліках, ішла на экспарт. Цяпер многае інакш. Мы, напрыклад, вельмі пакутуем, зведваем велізарныя цяжкасці з-за неплацяжоў нашых спажыўцоў.

Упакоўка — таксама адна з вострых праблем. У Беларусі няма ніводнага прадпрыемства, якое б магло стварыць канкурэнтаздольную канвалюту — г. зн. кардонную карабачку для лекаў. Няма такой фабрыкі. Раней мы заказвалі канвалюту ў Венгрыі, але там дарагавата. У Прыбалтыцы набывалі, але з-за мытных праблем гэты шлях таксама нявыгадны. Цяпер вось збіраемся самі наладзіць вытворчасць канвалюты. А што рабіць? Сёння ў сабекошце лекаў цана ўпакоўкі нярэдка даходзіць да 50 працэнтаў. Акрамя таго, прывабная сучасная ўпакоўка моцна ўплывае на рэалізацыю лекаў. Я мог бы назваць яшчэ шэраг праблем.

Але як бы нам складана ні прыходзілася, мы не зніжаем увагі да якасці прадукцыі. Па гэтым паказчыку прэпараты значна выйграюць у параўнанні з асобнымі лекамі, якія часам завозяцца ў Беларусь.

Мы ўсё больш актыўна працуем з аграрна-прамысловым сектарам рэспублікі. Напрыклад, выпрабляем фермент для харчовай прамысловасці. Упэўнены, кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў павінен зацікавіць мака-інзінны комплекс (яго распрацоўку мы зараз заканчваем) для лячэння маладняку жывёлы і птушак. Выпрабляем ветэрынарныя прэпараты.

**— Што, на вашу думку, трэба зрабіць, каб захаваць экспартны патэнцыял прадукцыі, падтрымліваць яе канкурэнтаздольнасць у блізкім і далёкім замежжы?**

— У першую чаргу неабходна зняць падатак на дабаўленую вартасць з лекавых прэпаратаў, якія рэалізуюцца за межамі Беларусі. Гэта дазволіць значна павялічыць аб'ёмы вытворчасці і продаж. У Расіі, напрыклад, вытворцы медыкаментаў вызвалены ад уплаты гэтага падатку і падатку на прыбытак.

**— Наколькі я ведаю, вам даводзіцца шмат імпартаваць сыравіны і матэрыялаў з той жа Расіі, іншых краін. А гэта і мытныя пошліны, дадатковыя выдаткі на вытворчасць, што ў сваю чаргу адбіваецца на кошце лекаў.**

— Пастановай Кабінета Міністраў № 340 ад 29.06.95 г. уведзены новыя стаўкі па мытных пошлінах на імпарт фармацэўтычных субстанцый. Пад 10-працэнтную пошліну трапілі шэраг субстанцый антыбіётыкаў, якія аднесены да жыццёва неабходных. Мы неаднаразова ўздымалі пытанне аб адмене мытных пошлін на ўвозімыя субстанцыі, сыравіну, матэрыялы, тэхналагічнае абсталяванне, якія выкарыстоўваюцца ў вытворчасці медыкаментаў.

— Улічваючы, што ў Расіі практычна спынены сінтэз субстанцый, АТ «Белмедпрэпараты» вымушана закупляць іх па імпарту. Сярэднямесячны аб'ём закупак сыравіны па імпарту 200—300 тыс. долараў. У сувязі з гэтым просім:

а) адмяніць абавязковы 50-працэнтны продаж валютнай выручкі для прадпрыемстваў медыцынскай прамысловасці;

б) забяспечыць першачарговы продаж валюты на Міжбанкаўскай валютнай біржы па курсу Нацыянальнага банка для закупкі субстанцый, сыравіны і матэрыялаў, а таксама тэхналагічнага абсталявання, якія выкарыстоўваюцца для вытворчасці медыкаментаў.

**— А ці лёгка набыць сыравіну ў Беларусі?**

— АТ «Белмедпрэпараты» адчувае востры недахват эндакрыннай сыравіны для вытворчасці лекавых прэпаратаў. Сыравіна скупляецца камерцыйнымі структурамі і вывозіцца з рэспублікі. Гэта прывяло да зніжэння выпуску такіх важных для рэспублікі прэпаратаў, як гепарын, алахол, халензім, інсулін, тырэадзін. У мэтах абароны сыравіннай базы неабходна давесці да Мінсельгасхарчу дзяржаўны заказ на пастаўку эндакрыннай сыравіны (па ўзгодненаму пераліку) для патрэб медыцынскай прамысловасці Рэспублікі Беларусь.

## Візітная картка



***Валерый ЦАРАНКОЎ, генеральны дырэктар АТ «Белмедпрэпараты».***

*Усё яго жыццё звязана з гэтым прадпрыемствам, якому ён аддаў 34 гады. Пачынаў радавым работнікам. Паступова вырас да галоўнага інжынера. Працяглы час працаваў намеснікам генеральнага дырэктара аб'яднання па вытворчасці. Царанкоў стаў першым у Беларусі доктарам фармацэўтычных навук. Параўнаўча нядаўна ён быў абраны акадэмікам Міжнароднай інжынернай акадэміі. Валерый Мінавіч аўтар шматлікіх вынаходак і навуковых распрацовак. У час яго работы галоўным інжынерам (яшчэ пры СССР) адмовіўся ад пасады дырэктара Каўнаскага і Пензенскага заводаў медпрэпаратаў.*

*На грамадскіх пачатках ён узначальвае фармакапейны камітэт міністэрства аховы здароўя Беларусі, які назірае за рэгістрацыяй лекаў, зменамі ў іх назвах, вызначэннем статусу імпартных прэпаратаў, уносіць змяненні ў нарматыўныя дакументы і г.д.*

## Асноўная прадукцыя

**Звыш 200 відаў фармацэўтычных, касметычных і ветэрынарных прэпаратаў.**

- ***антыбіётыкі (ампіцылін, рыфампіцын, мецыклін, даксіцыклін, леваміцэцін, гентаміцын, лінкаміцын і інш.)***
- ***кровазаменнікі і плазмазамяшчаючыя вадкасці (неарондэкс, неагемадэз, полімінрэапаліглюкін і інш.)***
- ***арганатэрапеўтычныя прэпараты (інсулін, гепарын, АТФ, цэрабралізат, прастэнон, цырэаідзін і інш.)***
- ***ветэрынарныя прэпараты (рыфацыклін, рыфафурапол, фераглюкін і інш.).***

## Новыя віды прадукцыі

- ***высокаачышчаныя формы інсуліну, мукасат, метранідазол, пірацэтам, фенігідзін, ністацін, ампіокс, какарбаксілаза, артафен, вітаміны «А», «Е», «С», «В-6», «Д-3», мазі — «хондраксід», ністацінавая, лінкаміцінавая і інш.***

**Вядуцца распрацоўкі (гефал, рондферын, біен, касалін, авамін, прагестэрон, праднізалон, тэстастэрон і інш.).**

**Усяго ў 1996 годзе засвоена звыш 40 новых прэпаратаў.**



***Фармацэўт фірменнай аптэкі Н. КАШАЛЁВА прапануе шырокі выбар лекаў, выпрабленых «Белмедпрэпаратамі».***

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## АДРАСЫ І ТЭЛЕФОНЫ ФІРМЕННЫХ АПТЭК АТ «БЕЛМЕДПРЭПАРАТЫ»

| | |
|---|---|
| **Аптэка № 1** | **220065 г. Мінск, вул. Чкалава, 17. Тэл.: (017) 229-68-54, 224-68-38** |
| **Аптэка № 2** | **220085 г. Мінск, прасп. Ракасоўскага, 113. Тэл.: (017) 248-82-08** |
| **Аптэка № 3** | **220104 г. Мінск, вул. Жудро, 57. Тэл.: (017) 255-54-10, 255-53-39** |
| **Аптэка № 4** | **246045 г. Гомель, вул. Агарэнкі, 16. Тэл.: (8-0232) 51-85-60, факс (8-0232) 51-78-75** |
| **Аптэка № 5** | **220025 г. Мінск, вул. Слабадская, 15. Тэл.: (017) 270-40-67** |
| **Аптэка № 6** | **212040 г. Магілёў, прасп. Дзімітрава, 49. Тэл.: (8-0222) 42-46-58** |
| **Аптэка № 7** | **222310 г. Маладзечна, вул. Я. Купалы, 110. Тэл.: (8-273) 7-19-91** |

## КААРДЫНАТЫ «БЕЛМЕДПРЭПАРАТАЎ»

**Рэспубліка Беларусь, 220007 г. Мінск, вул. Фабрыцыуса, 30.**

**Прыёмная: тэл./факс (017) 229-37-16.**
**Камерцыйны цэнтр: тэл. (017) 229-39-40, 229-39-30, факс (017) 229-38-50.**
**Р/рахунак 3011 2006230017 у Кастрычніцкім аддзяленні АК БелПСБ г. Мінска, МФО 153001357. Тэлекс 252462 FREON BY.**
**Група дробнааптовага гандлю: тэл./факс (017) 255-12-11, 228-58-43.**

## ВЕХІ ГІСТОРЫІ

***1929 год*** — адкрыццё першай у Беларусі фармацэўтычнай фабрыкі, якая выпускае прасцейшыя медыкаменты (настойкі палыну і ландышу, валяр'янавыя і мятныя каплі).

***1947 год*** — перайменаванне ў Мінскі дзяржаўны пеніцылінавы завод (у 1949 годзе выпушчаны першыя 200 флаконаў пеніцыліну).

***1954 год*** — перайменаванне ў Мінскі завод медыцынскіх прэпаратаў.

***1977 год*** — аб'яднанне з Мінскім заводам эндакрынных прэпаратаў, асноўным вытворцам інсуліну і гепарыну.

***1995 год*** — рэарганізацыя ў Акцыянернае таварыства «Белмедпрэпараты».



***Адзін з участкаў вытворчасці інсуліну.***

**Старонку падрыхтаваў Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## ЧУБАЙС І ЛУКАШЭНКА АБМЕРКАВАЛІ ПЕРСПЕКТЫВЫ РАСІЙСКА-БЕЛАРУСКАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сераду на сустрэчы ў Крамлі з кіраўніком адміністрацыі прэзідэнта РФ Анатолем Чубайсам праінфармаваў аб сітуацыі ў рэспубліцы напярэдадні рэферэндуму.

Як паведаміў «Інтэрфаксу» памочнік Анатоля Чубайса Андрэй Трапезнікаў, кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта РФ адзначыў, што пазіцыя А. Лукашэнкі па пошуку кампрамісу з парламентам, у прыватнасці, перанос тэрмінаў рэферэндуму на 24 лістапада, станоўча ўспрынята расійскім бокам.

Гаворачы пра стратэгічныя ядзерныя ракеты, што застаюцца пакуль на тэрыторыі Беларусі, А. Чубайс падкрэсліў неабходнасць выканання расійска-беларускай дамоўленасці аб іх транспарціроўцы ў РФ ва ўстаноўленыя тэрміны. Такіх ракет, паводле прызнання А. Лукашэнкі, у Беларусі застаецца «нямногім больш дзесятка».

Як адзначыў А. Трапезнікаў, А. Чубайс і А. Лукашэнка выказаліся за ўзмацненне аховы сумеснай мытнай прасторы пры імпарце тавараў.

А. Чубайс падкрэсліў неабходнасць сінхранізацыі тэмпаў рэформаў і уніфікацыі эканамічных механізмаў РФ і Беларусі. У гэтай сувязі бакі абмяняліся поглядамі на ход зямельнай рэформы ў абедзвюх краінах. Прэзідэнт А. Лукашэнка праінфармаваў аб сваёй падтрымцы змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб праве ўласнасці на зямлю», унесеных урадам рэспублікі ў Вярхоўны Савет. Гэтыя змяненні прадугледжваюць у строга вызначаных выпадках магчымасць для юрыдычных асобаў, уключаючы замежных, набываць зямлю ў прыватную ўласнасць.

Са свайго боку А. Чубайс падкрэсліў, што прэзідэнт Расіі ўдзяляе вялікую ўвагу развіццю рыначных механізмаў у зямельных адносінах. Ён нагадаў, што Барыс Ельцын у сваёй перадвыбарнай праграме, разлічанай да 2000 года, назваў гэтую задачу адной з галоўных у эканамічнай палітыцы расійскага ўрада.

А. Чубайс і А. Лукашэнка выказаліся таксама за ўзмацненне інтэграцыі дзвюх краін у рамках Супольніцтва па розных напрамках — палітыка, эканоміка, культура, сацыяльная сфера і г. д., заключыў А. Трапезнікаў.

## ПРЭМ'ЕР РФ ЧАРНАМЫРДЗІН ПРАВЁЎ РАБОЧУЮ СУСТРЭЧУ З ПРЭЗІДЭНТАМ БЕЛАРУСІ ЛУКАШЭНКАМ

Прэм'ер РФ Віктар Чарнамырдзін правёў у другой палове дня ў сераду рабочую сустрэчу з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам, які знаходзіцца ў Маскве. Гутарка праходзіла за закрытымі дзвярамі і працягвалася каля паўтары гадзіны.

Як паведаміла «Інтэрфаксу» крыніца ў акружэнні кіраўніка расійскага ўрада, у ходзе гутаркі абмяркоўвалася шырокае кола пытанняў двухбаковых адносінаў, у тым ліку звязаных з далейшай інтэграцыяй дзвюх краін.

У ходзе гутаркі прадметна разглядаліся пытанні работы выканаўчых органаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў і Супольніцтва Расіі і Беларусі. Субяседнікі таксама абмеркавалі праблемы, звязаныя з пастаўкамі расійскіх энерганосьбітаў у Беларусь, а таксама ажыццяўленне шэрага сумесных праектаў у галіне энергетыкі, адзначыла крыніца.

## У БЕЛАРУСІ НЯМА ПРАЦІЎНІКАЎ ІНТЭГРАЦЫІ З РАСІЯЙ

У Беларусі няма праціўнікаў інтэграцыі з Расіяй, заявіў у сераду старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі, каменціруючы выступленне Прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі ў Дзяржаўнай Думе Расійскай Федэрацыі.

Пра гэта «Інтэрфаксу» паведаміла прэс-сакратар Старшыні ВС Вераніка Трызна. Па словах С. Шарэцкага, «Прэзідэнту А. Лукашэнку не трэба спекуляваць на гэтай тэме і тым больш прысвойваць сабе аўтарства гэтай ідэі».

Старшыня ВС Беларусі таксама падкрэсліў, што «працэс інтэграцыі з Расіяй распачаў былы Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч яшчэ да ўвядзення ў краіне пасады прэзідэнта».

*АНОНС*

## МЕККА ІНТЭЛЕКТУАЛАЎ

Як гэта ні дзіўна гучыць, але ўкараненне ў вытворчасць прагрэсіўных тэхналогій — працяглы і, самае галоўнае, насычаны руціннай працай многіх людзей працэс. А ці нельга пазбавіць канструктарска-тэхналагічныя аддзелы ад непрадукцыйнага марнавання часу і даручыць праектаванне аўтаматам? Аказваецца, можна.

Калі мінскі завод «Белкамунмаш» узяўся за выпуск тралейбусаў, яму спатрэбіліся новыя вытворчыя тэхналогіі. Адна з тэхналагічных ліній — аўтаматызаваны комплекс «Штамп», прыдуманая навукоўцамі Інстытута тэхнічнай кібернетыкі АН Беларусі, і была ўсталявана на «Белкамунмашы». Яна паскорыла работу праекціроўшчыкаў тэхналагічнай аснасткі ў 4 — 6 разоў!

Камп'ютэрызацыяй інжынернай працы займаюцца на Беларусі многія спецыялізаваныя ўстановы. Асаблівую вастрыню праблема набывае ва ўмовах нашай эканамічнай сітуацыі. Практычнае ўкараненне перадавых навукова-тэхнічных распрацовак разглядаюць удзельнікі міжнароднай канферэнцыі «Мадэліраванне інтэлектуальных працэсаў праектавання і вытворчасці», якая гэтымі днямі праходзіць ў Мінску.

**Раальд ЛЕВІН.**

## *ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

Курыць — здароўю шкодзіць, гэта агульнавядома. Але ў ЗША курэнне, акрамя ўсяго, лічыцца яшчэ і «палітычна некарэктным». Між тым, сама меней 10 мільёнаў амерыканцаў, сярод якіх два працэнты — жанчыны, упарта ігнаруюць перасцярогі ўрачоў і заканадаўцаў грамадскай маралі і закурваюць на вачах у публікі ў непрызначаных для таго месцах. Апошнім часам у моду, перш за ўсё ў жанчын, зноў уваходзяць цыгары.

**Асашыэйтэд Прэс.**

*Дзве інданезійскія тэлекампаніі знялі з эфіру — па патрабаванню ваенных уладаў — рэкламны ролік брыльянціну. У тэлерэкламе малады чалавек з густымі валасамі гутарыў па тэлефоне з сяброўкай, якая выказвала сваё шкадаванне наконт таго, што ён паступае ў ваеннае вучылішча і яму прыйдзецца састрыгчы свае валасы. На думку ваенных, такая рэклама стварыла ў тэлегледачоў уражанне, што для мужчыны прычоска важней за ваенную кар'еру.*

**Рэйтэр.**

Цэлая баржа з прастытуткамі пайшла на дно ў Сьера-Леоне каля Фрытоўна — сталіцы гэтай заходнеафрыканскай краіны. «Жрыцы кахання» вярталіся на досвітку дадому на перапоўненым судне. 22 з іх патанулі, астатнія дабраліся ўплаў да іншых суднаў.

**ІТАР-ТАСС.**

*СПОРТ-ЭКСПРЭС*

## БЕЛАРУСАЎ ЧАКАЎ РАЗГРОМ

Днямі з Чэхіі вярнулася юнацкая зборная Беларусі па хакею, якая ўдзельнічала ў міжнародным турніры. Сапернікамі беларусаў былі зборныя Швейцарыі, Славакіі і Чэхіі. Найбольшае расчараванне нашых маладых хакеістаў (да 18 гадоў) напаткала ў першым матчы са славакамі. Сапернікі літаральна разграмілі з лікам 11:1. Дзве астатнія сустрэчы беларуская зборная таксама прайграла: гаспадарам турніру — 2:6, камандзе Швейцарыі — 2:7. Як вынік — апошняе месца. Першымі ж, як і меркавалася, сталі хакеісты Чэхіі. Яны выйгралі ўсе тры паядынкі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## Галоўны прыз «Звязды» — карова Папялушка — трапіла ў добрыя рукі сям'і Мірончыкаў

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Гаспадар Віктар працуе вадзіцелем у Капыльскім раённым вузле паштовай сувязі. І, як зазначыў начальнік вузла Віктар Антонавіч Раіцкі, Мірончыкі — працавітая сям'я, таму «Звяздзе», самай паважанай у нашым раёне газеце (амаль тры тысячы падпісчыкаў), не трэба хвалявацца за лёс свайго каштоўнага прыза: карова будзе дагледжана. Як аказалася, ён меў рацыю. У сям'і Мірончыкаў глыбокія вясковыя карані. Яніна Іосіфаўна ўсё сваё жыццё працавала ў калгасе. Добра ведае родную зямлю, яе працавітых людзей. Суседзі паважаюць яе за ўважлівасць і добразычлівасць. Для сына Віктара і нявесткі Галіны яна — вялікі аўтарытэт і мудры дарадца. Правёўшы зусім нямнога часу ў сям'і Мірончыкаў, мы востра адчулі тут вельмі станоўчую ауру, паважлівасць і грунтоўнасць, сапраўдны жыццёвы спакой. І падтрымлівае яго ў першую чаргу Яніна Іосіфаўна. Яна таксама чытае «Звязду», на старонках якой знаходзіць шмат навін аб жыцці Беларусі, парад для дома і сям'і. Па словах Галіны, многія з іх яны выкарыстоўваюць у сваім жыцці.

Зразумела, шмат клопатаў прыбавілася ў Віктара: трэба думаць аб набыцці дадатковых кармоў, каб пратрымаць дзвюх кароў (да гэтага адна карова ў гаспадарцы Міронычыкаў ужо была).

— Гэта прыемныя клопаты, — гаворыць Віктар, — справімся.

З размовы з ім мы пераканаліся, што гэта сапраўды будзе так. У майстра-ўмельца ўсё атрымаецца. А што ў яго «залатыя» рукі, сведчыць і падворак Мірончыкаў. Змог жа Віктар сам сабраць з запчастак трактар, адрамантаваць бацькоўскі дом, пабудаваць новае жыллё (хлеў) для каровы Папялушкі. Як прызнаўся, усміхаючыся, малады гаспадар, гэтую работу пачаў даўно і на зіму не планаваў закончыць, але ўсе планы «паламала» «Звязда» — прыйшлося хуценька даводзіць справу. Хлеў атрымаўся невялікі, але дабротны і цёплы. Папялушка, па ўсім было бачна, адчула там сябе ўтульна (хіба можна параўнаць тыя ж умовы ўтрымання ў вялікім калгасным памяшканні і добра змайстраваным прыватным?!). Гаспадар ён і ёсць Гаспадар, асабліва такі, як Віктар, а побач — сапраўдная Гаспадыня Галіна. Яны не цураюцца працы, разлічваюць толькі на саміх сябе, на сваю сям'ю — Яніну Іосіфаўну, сына Андрэйку і дачку Алачку.

Шчасця вам і ўдачы, працавітая і дружная сям'я Мірончыкаў! І да сустрэчы на Ражство Хрыстова, калі будзе прыбаўка ў звяздоўскай Папялушкі. Мы сапраўды спакойныя — яна трапіла ў добрыя гаспадарскія рукі.

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**
*Капыльскі раён.*

**P. S.** *Многія ўладальнікі латарэйных выйгрышаў ужо атрымалі іх. З тымі чытачамі, хто чакае прызоў, мы плануем сустрэцца ў самы бліжэйшы час. Напомнім: працягваецца падпіска на 1997 год — год, у якім мы разам з вамі адзначым 80-годдзе старэйшай беларускай газеты. У сённяшняй складанай сітуацыі, вядома, цяжка знайсці лішнія грошы на падпіску, але, паверце, «Звязда» не будзе лішняй у вашым доме. Мы даём вам галоўнае — інфармацыю.*

*Падпіску можна аформіць* ***на паўгода (тады, праслаўшы спецыяльны купон, вы зможаце стаць удзельнікам латарэі, галоўны прыз якой — КОНЬ З ВУПРАЖЖУ). Кошт падпіскі на першае паўгоддзе — 83.400 рублёў.***

*Падпіску можна аформіць і* ***на тры месяцы (41.700 рублёў).***

*Удзельнікі латарэі* ***могуць выйграць тавары народнага спажывання, сярод якіх электраплуг, веласіпеды, тэлевізары, пральныя машыны, фотаапараты, люстры і г. д.***

*Нагадваем, што* ***спецыяльны конкурс праводзіцца і для паштальёнаў,*** *для якіх таксама ўстаноўлены каштоўныя прызы:* ***тэлевізар, пральная машына «Мара», веласіпед, а таксама бясплатныя пуцёўкі для аздараўлення і адпачынку дзяцей за мяжой.*** *Падрабязна аб гэтым вы зможаце прачытаць у нумары за 15 лістапада.*

*Будзем разам!*

***Чытайце «Звязду»! Выпісвайце «Звязду»! Выйгравайце прызы «Звязды»!***

## УВАГА! «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

Ужо тры гады ў нашай рэспубліцы праходзіць зямельная рэформа.

Якімі тэмпамі яна ідзе? Колькі каштуе гектар зямлі? Хто можа яе купіць? Ці не станем мы сведкамі з'яўлення на Беларусі новага класа — памешчыкаў? Ці ёсць будучыня ў фермерскіх гаспадарак, калі сённяшні дзень іх нялёгкі? Як рэалізуецца права наследавання зямлі?

На гэтыя і іншыя пытанні вам, паважаныя чытачы, адкажа старшыня Камітэта па зямельных рэсурсах Рэспублікі Беларусь **Георгій Іванавіч КУЗНЯЦОЎ.**

**«Прамая лінія» адбудзецца 20 лістапада.**

**Вашых званкоў чакаем з 11 да 12 гадзін па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92.**

***Папярэдне тэлефануйце па нумары 268-27-50, а таксама дасылайце лісты з пытаннямі на адрас: 220013 г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10А, рэдакцыя газеты «Звязда» (з паметкай «Зямельнае пытанне»).***

## *АДНЫМ СКАЗАМ*

- На сённяшні дзень ва Узброеных Сілах Беларусі служаць **больш за 4 тысячы жанчын,** з іх 600 прапаршчыкаў і афіцэраў, астатнія — салдаты і сяржанты, якія праходзяць службу па кантракту.
- Дзяржбюджэтнае фінансаванне ў агульным аб'ёме спажывання лекаў складае **67 працэнтаў.**
- За 9 месяцаў чыстыя рублёвыя ўнутраныя крэдыты Нацыянальнага банка **павялічыліся з 3,8 да 7,5 трыльёна рублёў,** або ў 2 разы, а з карэкціроўкай на інфляцыю яны выраслі на 77 працэнтаў.
- У Гомельскай вобласці за 9 месяцаў зарэгістравана 561 злачынства, звязанае **з распаўсюджваннем наркатычных сродкаў.**
- На 1 кастрычніка, па звестках Светлагорскага наркалагічнага дыспансера, з 9088 абследаваных на ВІЧ-інфекцыю **ў 570 станоўчы вынік,** у астатніх праводзяцца паўторныя даследаванні крыві.
- За апошнія 5 гадоў **штогадовы рост захворваняў на туберкулёз** у рэспубліцы складае 8,3 працэнта.

## УЗНІМАЦЬ ЭКАНОМІКУ СУДЖАНА РАЗАМ

Умовы для паўнакроўнай работы прамысловых прадпрыемстваў і пытанні своечасовай выплаты заработнай платы былі асноўнай тэмай сустрэчы, якая адбылася паміж прэм'ер-міністрам краіны Міхаілам Чыгірам і старшынёй Федэрацыі прафсаюзаў беларускай Уладзімірам Ганчарыкам. Сустрэча адбылася 12 лістапада.

**БЕЛТА.**

## ШЛЯХ НА РАДЗІМУ ДЛЯ АНАТОЛЯ МАЙСЕНІ АКАЗАЎСЯ АПОШНІМ

Як паведамлялася ўжо БЕЛТА, вяртаючыся з 10-дзённай паездкі па Еўропе, 12 лістапада ў 7 гадзін 30 хвілін у час руху па трасе Брэст—Мінск у аўтакатастрофе загінуў прэзідэнт Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад» Анатоль Майсеня.

37-гадовы Анатоль Майсеня быў вядомым палітолагам і журналістам як у Беларусі, так і за яе межамі. Цэнтр, які ўзначальваў ён, праводзіў шэраг міжнародных мерапрыемстваў, на якіх абмяркоўвалася грамадска-палітычная сітуацыя ў рэспубліцы, разглядаліся эканамічныя, сацыяльныя і міжнародныя праблемы, а таксама шляхі іх вырашэння. На семінары, што праводзіліся цэнтрам, запрашаліся прадстаўнікі Савета Еўропы, шэраг вядомых беларускіх і замежных грамадскіх і дзяржаўных дзеячаў.

Паводле даных службы інфармацыі і грамадскіх сувязей НЦСІ «Усход—Захад», 12 лістапада Анатоль Майсеня вяртаўся з дзвюх міжнародных канферэнцый, прысвечаных праблемам міжнароднай бяспекі, якія праходзілі ў Вене і Рыме.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Стаўбцоўскім РАУС, Анатоль Майсеня, знаходзячыся за рулём аўтамабіля «Джып Чэрокі», не справіўся з кіраваннем і сутыкнуўся з аўтамабілем «ГАЗ-53», які рухаўся ў тым жа напрамку. Грузавік, што належыць Бярозаўскаму камбінату № 2, ехаў на буксіры ў аўтамабіля «КамАЗ» са скорасцю каля 50 кіламетраў у гадзіну. У той момант, калі «Джып Чэрокі» ўрэзаўся ў «ГАЗ-53», у кабіне грузавіка знаходзіліся вадзіцель са сваёй жонкай, якая пры сутыкненні выпала з машыны. Жанчына ўдарылася, а Анатоль Майсеня пры дастаўцы ў бальніцу памёр. Па факту аварыі заведзена крымінальная справа, аднак у міліцыянераў няма падстаў меркаваць, што гэта дарожна-транспартнае здарэнне — вынік загадзя спланаванай акцыі.

Пахаванне Анатоля Майсені адбудзецца 14 лістапада. Перад гэтым труна з целам нябожчыка будзе ўстаноўлена ў Мінскім Доме літаратара. Час грамадзянскай паніхіды ўдакладняецца.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ,**
**БЕЛТА.**

**Калектыў Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь выказвае пачуццё глыбокага смутку ў сувязі з трагічнай смерцю таленавітага журналіста і палітолага, прэзідэнта Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад», члена Грамадскага савета па знешняй палітыцы пры МЗС Беларусі Анатоля Іосіфавіча МАЙСЕНІ. Мы шлём шчырыя спачуванні родным і сваякам нябожчыка.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.35 | 16.14 | 8.39 |
| Віцебск – | 7.30 | 15.59 | 8.29 |
| Магілёў – | 7.24 | 16.03 | 8.39 |
| Гомель – | 7.17 | 16.05 | 8.48 |
| Гродна – | 7.51 | 16.29 | 8.38 |
| Брэст – | 7.43 | 16.37 | 8.54 |

### МЕСЯЦ

**Маладзік 11 лістапада.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Касмы, Даміяна, ФеадоцІі, Іаана, Іакава.**

**К. Сэрафіна Рокера.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, на большай частцы тэрыторыі дажджы. Тэмпература паветра ў Гродне — 5—7, Мінску, Віцебску — 6—8, Брэсце, Магілёве — 7—9, Гомелі — 8—10 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, 15-га ўначы месцамі невялікія дажджы; 16-га — пераважна без ападкаў. Тэмпература ўначы 15-га — 0—5, 16-га — 2—7, удзень — 6—11 градусаў вышэй нуля.



# ЛАЎКА АЎТААМАТАРА

## ДЭМАНЦІРУЕМ ПАЎВОСЬ

Каб дастаць паўвось з картэра задняга моста «Жыгулёў», можна прымяніць зручны здымнік-скабу, паказаны на малюнку. Ён зроблены з ліставога жалеза таўшчынёй 5-6 мм, у сагнутых канцах прасвідраваны дзве дзіркі для мацавання да фланца паўвосі штатнымі балтамі. Дастаткова некалькіх удараў цяжкім малатком па ўнутранай сценцы скабы, каб паўвось выйшла з гнязда.

Такі здымнік можна прымяняць на любым аўтамабілі, прасвідраваўшы адпаведныя дзіркі для мацавання паўвосі.




*1 — здымнік—скаба;*
*2 — паўвось;*
*3 — болт мацавання кола.*

## ДЫСКІ ПРАВІМ САМІ

Пагнутыя ад бакавога ўдару дыскі колаў можна выправіць пры дапамозе балтоў на стальным лісце таўшчынёй не менш як 15 мм. Для гэтага дыск устанаўліваюць на пліту 1, як паказана на малюнку, і прыцягваюць балтамі, устаўленымі ў яго крапёжныя дзіркі, тыя ўчасткі, дзе адлегласць «а» — ад пліты да плоскасці дыска — найбольшая. Праўку заканчваюць, калі адлегласць «а» стане аднолькавай ва ўсіх пунктах пры адпушчаных балтах.

*Прыстасаванне для выпраўлення дыска:*




*1 — пліта;*
*2 — балты М12;*
*3 — дыск.*

## ЗРУЧНЫ КЛЮЧ

Можна аблегчыць працу, калі ў ключ уставіць кавалак гумавага шланга са знешнім дыяметрам 20—22 мм, унутраным — 13—14 мм, даўжынёй 15—20 мм, як паказана на малюнку. Шланг не толькі ўтрымлівае свечку, але і цэнтруе яе, што неабходна пры ўстаноўцы. Такім ключом можна таксама рэгуляваць зазор паміж электродамі, калі свечка гарачая.

Выкручваць і здымаць выкручаную свечку не вельмі зручна, бо яе трэба браць рукой — з ключа яна выпадае.




*1 — ключ;*
*2 — гумавая ўстаўка;*
*3 — свечка.*

## ШАРНІРЫ ПРАСЛУЖАЦЬ БОЛЬШ

Шарніры рулявых цягаў аўтамабіляў «Жыгулі» і «Масквіч» могуць раней выйсці са строю, калі ў іх трапляюць вада і пыл, знаходзячы сабе дарогу праз зазор, які ўтвараецца з цягам часу паміж гумавым чахлом і пальцам.

Прасцей за ўсё закрыць зазор шайбай з губчатай гумы ці паралону таўшчынёй 10—15 мм, як паказана на малюнку.

Устанавіўшы яе загадзя, вы значна павялічыце даўгавечнасць шарніра.




*1 — палец;*
*2 — шайба з губчатай гумы;*
*3 — гумавы чахол;*
*4 — цяга.*

***ПРАЦЯГ СКАНДАЛУ***

# З ЧЭРВЕНЯ БРУШНЫ ТЫФ ТРАПІЎ У БАРЫСАЎ

**12 лістапада ў «Звяздзе» быў надрукаваны матэрыял «Брушны тыф у Чэрвені: мноства захварэўшых, факт самагубства, парушэнні ў гандлі», гаворка ў якім ішла аб успышцы гэтага захворвання ў мясцовым доме-інтэрнаце для псіханеўралагічных хворых і тых мерах, якія прымаюцца па стабілізацыі абстаноўкі.**

Літаральна ў той жа дзень мне патэлефанавала пенсіянерка, мінчанка Людміла Уладзіміраўна Галкус, якая паведаміла наступнае. Яе родная сястра Марыя Уладзіміраўна Бабіцкая мае 30-гадовага сына, які з дзяцінства хворы і вось ужо 16 гадоў запар жыве ў Чэрвеньскім доме-інтэрнаце для псіханеўралагічных хворых. Маці яго часта наведвае, а таксама бярэ на выхадныя дамоў у Барысаў. 21 кастрычніка ў Мішы Бабіцкага быў дзень нараджэння, і Марыя Уладзіміраўна забрала яго да сябе, збіраючыся зрабіць дома для сына невялікае свята з гэтай нагоды. Але ў ноч з 20 на 21 кастрычніка ў яго з'явілася вялікая тэмпература, ён нават страчваў прытомнасць. Прыехаўшая «хуткая дапамога» нічога зрабіць не змагла, паколькі немагчыма было ўстанавіць дыягназ.

21 кастрычніка маці патэлефанавала ў Чэрвень і там ёй адказалі, што ў іх быццам бы тыф (нагадаем: першы дакладны дыягназ «брушны тыф» быў пастаўлены толькі 22-га). Але і праз два дні, 23 кастрычніка, Бабіцкая нічога новага з Чэрвеня не пачула. Увесь гэты час яе сын знаходзіўся дома. Марыя Уладзіміраўна — медсястра-акушэрка, таму яна сама пачала шукаць выйсце. Звярнулася ў адну бальніцу — там нічым не дапамаглі, пайшла ў другую, дзе ўрач пашкадаваў жанчыну, і Мішу нарэшце паклалі ў аддзяленне уралогіі ў звычайную палату для інвалідаў (там было яшчэ некалькі чалавек). Тут ён праляжаў шэсць дзён. У гэты час яго наведвалі маці і цётка. 31 кастрычніка зноў звязаліся з домам-інтэрнатам і там, нарэшце, паведамілі, што ў іх — тыф. Адразу пасля званка Міхаілу Бабіцкаму быў пастаўлены адпаведны дыягназ і ён быў пераведзены ў асобны бокс Барысаўскай інфекцыйнай бальніцы. Маці знаходзілася з сынам, якому, па словах Людмілы Уладзіміраўны, стала крыху лепш, хаця тэмпература па-ранейшаму высокая. Маці хворага таксама прымае спецыяльныя лекі. Вось такі нечаканы атрымаўся працяг гісторыі. Пасля гэтага я звязаўся з дырэктарам Чэрвеньскага дома-інтэрната для псіханеўралагічных хворых Васілём Калітой.

**— Васіль Іванавіч, ці забіраў яшчэ хто, акрамя Бабіцкай, хворых з дома-інтэрната?**

— Не, ні да гэтага, ні пасля ад нас не з'ехаў ні адзін чалавек.

**— Ведаю, што па выніках праверкі дома-інтэрната санэпідслужбамі раёна, вобласці і рэспублікі вам прапанавалі выправіць пэўныя хібы, што датычацца гаспадарчага забеспячэння дома-інтэрната...**

— Так, але я не згодзен з некаторымі пунктамі, што зафіксаваны ў адпаведных дакументах. У вышэйстаячых органаў на гэты конт сваё меркаванне, якое, на маю думку, не супадае з сапраўднымі фактамі...

Каб высветліць сітуацыю больш дакладна, прыйшлося патэлефанаваць галоўнаму эпідэміёлагу Міністэрства аховы здароўя Анатолю Кажамякіну. Адначасова я папрасіў спецыяліста ўвогуле ацаніць здарэнне ў Чэрвені.

Па словах Анатоля Кузьміча, тое, што здарылася ў доме-інтэрнаце для псіханеўралагічных хворых, — рэч надзвычайная. Брушны тыф — хвароба далёка не будзённая, раней рэгістраваліся толькі яе асобныя выпадкі. Апошняя ўспышка, калі пацярпела вялікая колькасць людзей, адбылася ў Кобрынскім раёне Брэсцкай вобласці. На вяселлі, дзе было 160 чалавек з Беларусі, Украіны, Расіі, прысутнічаў хранічны бактэрыяносьбіт, жанчына 1921 г. н. Медыкі мяркуюць, што яна мела дачыненне да прыгатавання ежы, з-за чаго і адбылося заражэнне. У выніку пацярпеў 21 чалавек (12 захварэлі, 7 сталі носьбітамі, два пакуль знаходзяцца на падазрэнні). Адбылося гэта ў верасні мінулага года, першы дыягназ быў пастаўлены 21 кастрычніка, зноў-такі мінулага года. Адказваючы на пытанне наконт небяспечнасці хранічных бактэрыяносьбітаў для астатніх людзей, Анатоль Кузьміч зазначыў, што яны нічым не ўшчамляюцца і могуць працаваць ва ўсіх галінах, акрамя абслугоўвання (повары, кандытары і г. д.). Хранічны характар хваробы абумоўлены не тым, што медыцына не можа перамагчы яе, а індывідуальнымі асаблівасцямі імуннай сістэмы кожнага чалавека. Нават унёсшы інфекцыю ў свой арганізм (зразумела, гледзячы ў якім памеры), можна і не захварэць на тыф. У сярэднім у выпадку інфіцыравання інкубацыйны перыяд складае 10—14 дзён. Праз гэты час вызначаецца лёс 95—99 працэнтаў людзей.

Гаворачы аб Чэрвеньскім доме-інтэрнаце, спадар Кажамякін назваў прычынай успышкі несвоечасовыя меры па ліквідацыі аварыі. Да таго ж, па словах Анатоля Кузьміча, раней санслужбамі неаднаразова адзначаліся працяканні на глебу сцёкаў з каналізацыі, дзе маглі быць узбуджальнікі тыфу (а менавіта з гэтым не згодзен дырэктар дома-інтэрната Васіль Каліта), што было неаднаразова зафіксавана ў дакументах на працягу 1995—96 гг. Зноў жа, не будзем спяшацца з высновамі, паколькі справа гэта сур'ёзная і, як відаць, апошняя кропка ў ёй будзе пастаўлена значна пазней.

Што датычыцца хворага Міхаіла Бабіцкага, то, як паведаміў нам галоўны ўрач Барысаўскай інфекцыйнай бальніцы Юрый Келдышаў, яго стан зараз здавальняючы. Прыкладна праз 10 дзён усё будзе высветлена канчаткова. Тыя чатыры чалавекі, што ляжалі напачатку з ім у агульнай палаце, абследаваны. Ніхто з іх не захварэў. Маці Мішы таксама прайшла ўсе неабходныя мерапрыемствы, яе здароўе ў норме. Што ж, застаецца толькі падзякаваць Богу, што пакуль «пранесла»...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



## ТЭЛЕБАЧАННЕ 14 лістапада

### Беларускае тэлебачанне

**9.00** Канцэртны сезон. «Пейзаж з флейтай».
**9.25** «Тайна цацак». Мультфільм.
**9.35** «Тэлебом». Шоу-конкурс. Частка 2-я.
**10.05** Каралеўскае паляванне.
**10.45** «Трапічная спёка». Тэлесерыял.
**11.45** Творцы. Народны артыст СССР Віктар Роўда.
**12.25** Госці ў хату. Да Міжнароднага дня студэнтаў.
**12.55** Тэлевізійны Дом кіно. Актрыса Святлана Сухавей.
**13.30** «Паездка ў Вісбадэн». Маст. фільм.
**15.00** Навіны.
**15.10** «Прагулка ката Леапольда», «Кот Леапольд у сне і наяве», «Аўтамабіль ката Леапольда». Мультфільмы.
**15.40** Тэлебачанне — школе. Выяўленчае мастацтва. 3-ці клас. Перадача настрою ў творах жывапісу.
**16.00** «Бачыць сэрцам». Дабрачынная акцыя ў дапамогу дзецям-інвалідам па зроку.
**17.25** «Памежжа». Перадача з Гродна.
**17.45** Урокі Наталлі Наважылавай.
**18.15** Майстэрня. Паэт-парадыст Міхась Скобла.
**18.25** Музычны антракт.
**18.35** Эканамікст.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.00** Рэферэндум: шчырая размова.
**19.35** «Трапічная спёка». Тэлесерыял (ЗША).
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.10** «Справы даўно мінулых дзён». Маст. фільм.
**23.50** Навіны.
**0.05** «Крок». Праграма для моладзі.

### ГРТ

**9.00** «У пошуку страчанага». Іван Пераверзеў. Вядучы Г. Скараходаў.
**9.40** «Клуб падарожнікаў» (з сурдаперакладам).
**10.35** Смак.
**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір».
**11.55** «Народжаная рэвалюцыяй». 5-я серыя.
**13.30** Брэйн-рынг.
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Касмічныя выратавальнікі лейтэнанта Марша».
**14.45** Лега-го!
**15.10** Цін-Тонік.
**15.40** «Карын і яе сабака».
**16.05** Рок-урок.
**16.30** «Вакол свету».
**17.00** Навіны.
**17.20** «Новая ахвяра».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.30** «Джэнтльмен-шоу» на Першым канале.
**19.00** Дзіўныя гісторыі ў праграме «Мая сям'я».
**19.45** Спакойнай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.40** «Сібірыяда». 2-я серыя.
**22.05** «Абоз». Шоу Івана Дзямідава.
**23.00** Навіны.
**23.10** «Пятніца, 13».

### Канал «Расія»

**10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі.
**8.55** «Санта-Барбара». Маст. фільм.
**9.50, 23.25** Тавары — поштай.
**10.20** «Пастка». Маст. фільм. 4-я серыя.
**16.20** Блак-нот.
**16.35** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў.
**17.05** Экспавеснік.
**17.20** «Белы сон Пецярбурга». Спявае С. Захараў.
**17.45** «Цёмная» для Юрыя Чарнічэнкі.
**18.00** Новае «Пятае кола».
**18.40** Асабліва важныя персоны.
**19.30** «Санта-Барбара».
**20.30** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы сярод клубных каманд. ЦСКА — «Макабі» (Ізраіль).
**21.55** Надвор'е на заўтра.
**22.00** Фантастычны свет. «Вандроўнік». Маст. фільм (ЗША). 3-я серыя.
**23.35** «Хто на што здатны».
**23.50** Не спі і глядзі.
**0.15.** Музыка ўсіх пакаленняў.

### Санкт-Пецярбург

**15.05** «Гісторыя кахання». Серыял (Іспанія—Аргенціна).
**15.55, 18.55, 23.35** Інфарм ТБ.
**16.10** Парадоксы гісторыі. «Шпіёнскія страсці».
**16.35** «Страла ляціць у казку». Мультфільм.
**17.05** Дзіцячае ТБ: «Казка за казкай».
**17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.20** «Гісторыя кахання». Серыял.
**20.10** Асабістая справа.
**20.40** Тэлеслужба бяспекі.
**20.55** Спартыўны агляд.
**21.05** «Забойны аддзел». Серыял.
**21.55** Падзея.
**22.10** «Прасцэніум». Р. Віктюк у Пецярбургу.
**22.55** «Тэлекампакт». Музычнае шоу.

### НТБ

**9.00** Ранішні сеанс. Брэд Дэвіс у фільме «Змова супраць Гітлера» (ЗША).
**10.30** Праграма для дзяцей. «Вуліца Сезам».
**11.00** Сёння апоўдні.

### «Расійскія універсітэты»

**13.00** Сёння ўдзень.
**13.15** Вялікая часінка.
**15.00** Сёння ўдзень.
**15.30** Дыстанцыя 60.

### НТБ

**16.30** Кінатэатр юнага гледача. Маст. фільм «Блакітнае дрэва». 4-я серыя (Аргенціна—Італія).
**17.30** Праграма для дзяцей «Вуліца Сезам».
**18.00** Сёння вечарам.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Свет кіно. Маст. фільм «Багамол» (Вялікабрытанія—Аўстралія).
**21.00** Сёння вечарам.
**21.35** Час серыяла. «За мяжой магчымага». 4-я серыя (ЗША).
**22.30** Часінка.
**23.00** Сёння апоўначы.
**23.20** Кіно не для ўсіх. Марыя Шэл і Марчэла Мастраяні ў фільме Лукіна Вісконці «Белыя ночы».

### 8-ы канал

**18.00** Мультфільм «Амерыканскія казкі Файвела».
**18.30** Маст. фільм «Беларускі вакзал».
**20.15** Мультпланета.
**20.45** Серыял «Месца сустрэчы змяніць нельга».
**22.00** «Жыццё сабачае...»
**22.15** Маст. фільм «Чалавек цемры».
**23.55** Без каментарыя.

## ВІНШУЕМ

⌘ *Віншуем з 55-гадовым юбілеем з дня нараджэння нашага любага бацьку і дзядулю Ніканора Ніканоравіча ШЧАТКО з в. Семкава. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, дабрабыту і шчасця ў сям'і.*

***Дачка Таццяна, зяць і ўнучкі, г. Навагрудак.***

⌘ *Сардэчна віншуем з 75-годдзем Ніну Авакумаўну АСТАШОНАК. Жадаем шчасця і дабра і доўгіх-доўгіх год жыцця.*

***Муж, дочкі, зяці і ўнукі, г. Мінск.***

⌘ *Сардэчна віншуем з 18-годдзем дарагога і любімага сыночка Дзіму ДУБОВІКА. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, кахання, паспяхова закончыць вучобу.*

***Бацькі Аляксей Сямёнавіч і Раіса Іванаўна, брат Юра.***

**Згубленае пасведчанне серыі ФВ № 889420, выдадзенае Таран Таццяне Іванаўне, лічыць несапраўдным.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 7190.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12